

# «Мой брат духоўны...»

## Споведзь мастака

Драбкі блакіту ззялі, як сама раніца ў абмытым цёплым дажджом акне, грэліся ў вохрыста-залацістых лужынках сонца. Сонечныя плямы дзе сплываліся і ярчэлі, дзе рассыпаліся і гаслі, а блакіт заставаўся трывалы і чысты.

Жукоўскі расплюшчыў вочы.

На панэлі каміна ў разнаколерных, з багемскага шкла, вазачках ззялі, нібы жывыя, лясныя фіялкі — ён глядзеў на іх з захапленнем. Ці не гэты блакіт бачыў заплюшчанымі вачыма, адпачываючы ў любімым чырвоным крэсле? А яшчэ мроіліся срабрыста-агатавыя плямкі, якіх не было ў багемскім шкле. Яны адкуль? Можа, з каскаўскіх бярэзнікаў, што на беразе Удомлі вакол Бірулевай дачы, дзе паветра ляснае, са срабрыстым пылком хваёва-бярозавага падлеску, у той час як тут, на старых шафранавых кафлях, грэлася ранішняе паветра Варшавы? І яшчэ — дыханне Марыі. У вазачках стаялі яе кветкі. А тыя — чые? Ганначкі Турчанінавай з Астравенскага возера, на мове сяброў — Люлю? Ці яшчэ маладзейшае Тоні з возера Песьво — цудоўнага люстэрка з гасцінным белым домам на беразе ў далекаватым адсюль паўночным краі? А можа, і зусім маладзенькай Кацечкі Белярмінавай?

Жукоўскі ўстаў і падышоў да акна. Неба было блакітнае, у залацістых водсветах, падобнае на паветра ў лясных кветках ды вакол іх, хоць сонечны дыск сплыў за вастрапікую готыку касцёла Панны Марыі. Прайшоўся па пакоі, затрымаўся перад камінам, паглядзеў на вазачку, у якой, прытуліўшыся галоўкаю да галоўкі, нібы цнатлівыя паннáчкі, стаялі грацыёзныя фіялкі, здзівіўся: якая

вытанчаная гармонія жывое натуры! А песня? Яна — адкуль? Чый званочак чуваць? Падышоў зноў да акна: няма нікога. Ах, тое было ўчора: Імрэ Кальман, "Фіялка Манмартра", жывыя лясныя кветкі на грудзях у Марыі. Тады, пачуўшы чароўны голас, ён расчыніў акно. Пад зялёнасмарагдавым каштанам убачыў жаночую постаць і закрычаў: "Панна Гелена! Я куплю вашы кветкі!" Вуалька павольна прыўзнялася, і ён пазнаў звернуты да яго, яму насустрач, смуглявы тварык Марыі. Як мог падмануцца? Спачатку падумаў, што кветкі пад акном прадае Гелена, дачка пана Людвіка, які з сям'ёю нядаўна пераехаў сюды, у Варшаву, уцёк з Расіі, як, дарэчы, і ён сам, Жукоўскі, дзесяць гадоў назад — ад новых рэвалюцыйных парадкаў і чарнасоценных жахаў. Каб неяк пражыць, Гелена часта прадавала на вуліцы кветкі. Але цяпер там была Марыя — таксама руская эмігрантка. Яна прыцiскала да грудзей лясны блакіт і смяялася, гарэза, з яго, падманутага. Утаймаваўшы свой нязмушана-малады смех, заспявала: "Купіце фіялкі..." — і людзі, што ішлі па тратуары, спыняліся і слухалі, пазнаючы любімую аперэтачную актрысу.

Калі адчыніў дзверы і Марыя працягнула яму насустрач рукі з азярцом цёплага блакіту, ён схапіў яе, закружыў, не зважаючы на мольбы: "Кветкі, Станіслаў!.. Божа барані!.. У мяне рэпетыцыя!.."

Ах, Марыя!.. Як шмат ты мне ўчора прынесла! Свет, цэлы свет, родны свет — у лясных фіялках. Сама лесам вясновым прапахла.

Ён яе адпусціў. З любові да тэатра, да Кальмана. Але адпускаць, бачыў Бог, не хацеў. Паспрабаваў затрымаць, ахвяруючы тэатрам і Кальманам. Як? Хітрасцю. Пакуль яна ставіла кветкі ў вазачкі, адкаркаваў у гасцёўні бутэльку з віном. Хітрасць не ўдалася: вярнуўся, а Марыі ўжо няма.

Што было пасля?

Яе кветкі не прынеслі яму ні спакою, ні натхнення. Ён неаднойчы пасля прыемнай сустрэчы з жанчынаю кідаўся, як апантаны, у свет колераў і святла, пісаў — як кахаў, нібы ўпершыню, пераліваў вар'яцкае пачуццё з аднаго ў другое, але ўчора гэта не адбылося — працаваць пасля сустрэчы з Марыяй не змог. На мальберце стаяў пейзаж, пачаты вясною на Пружаншчыне і не закончаны

па свежых уражаннях. Можа, таму тады не дапісаў, што пачуццяў, якія хацелася ўкласці, не хапіла? Былі ідэя і вобраз, колер і тон, але сэрца ўспыхнула і пагасла. Чаму? Хто і што — прычына? Бацька? Яго ледзяная жорсткасць, ад якой сын без шкадавання, яшчэ зусім малады, пакінуў родны дом? І як сілы ў сабе знайшоў, каб паміж бацькавай воляй і жывапісам выбраць жывапіс? Бацька быў, як заўсёды, надта рашучы: або ён — або жывапіс. Сын не выракся ні бацькі, ні жывапісу. Бацька выракся сына. Дык ці не гэтая рана віною, што пачаты на бацькаўшчыне пейзаж нядоўга грэў сэрца?

Змарнаваў і ўчорашні дзень. Колькі разоў падыходзіў да мальберта, браўся за палітру і пэндзлі, а думкі ўсё пераскоквалі праз пушчанскі матыў і Старую Волю, сядзібу маленства, танулі ў іншых вёснах, найбольш — у азёрным цвярскім краі. Сэрца ўсё яшчэ жыло там.

Увечары, як сцямнела, ён запаліў настольную лямпу, адну вазачку з кветкамі пераставіў з каміна на пісьмовы стол і сеў за стол. Соня, жонка, была ў вёсцы, у кватэры гаспадарыла цішыня, пра якую і сказаць, што гэта цішыня, ці можна, калі яна большае за цішыню — само паветра, ахоўніца ўсіх капрызаў сэрца і карцін. Адчуўшы гэта, паклаў перад сабою на стале аркуш чыстай паперы, узяў асадку з залатым пяром, падораную чамусьці не Марыяй, якая так любіла з нагоды і без нагоды што-небудзь дарыць, і не Соняй, якая заўсёды трымала ў галаве ўсе яго святы і слабасці, а яшчэ адной блізкай жанчынаю — Стэлай, якая звычайна не памятала нават дзень і месяц, у якіх жыла, тым больш святы іншага чалавека, кахала яго, Станіслава, як казала Соня, за напісаныя і яшчэ ненапісаныя пейзажы Палесся, роднага яму і роднага ёй, бо і яе Варшаве падарыла Палессе. Як — за ненапісаныя? О, яна шмат ад яго чакала. Любіла прамаўляць: “Чакаем мы — я і Палессе”.

Ён апусціў залатое пяро ў цяжкую, з чырвонага каменю, чарніліцу і буйнымі літарамі вывеў:

*Дарагі Вітольдзік, мой брат духоўны!*

Задумаўся. Брат духоўны? Напісалася гэта адразу, калі яшчэ не ведаў, з якіх слоў пачаць ліст, але цяпер падумаў, што слоў большае праўды і шчырасці для першага радка

быць не магло. Сябра не мог не паверыць у гэтакае прызнанне.

Усміхнуўся, задаволены, і далей пайшло-паехала ў тым самым молада-лёгкім настроі:

*Твой ліст — лірычны і рамантычны твор. Па глыбіні адчуванняў і назіральнасці ён вышэй за Тургенева. Усім, хто ведае Расію, я даю яго чытаць як узор глыбіні і змястоўнасці пачуццяў рамантыка, паэта, мастака. Панна Яніна ў захапленні ад ліста, прасіла даць пачытаць маме, калі тая вернецца ў Варшаву. Граф М., муж маёй красуні, з кіяўлян, таксама чытаў ліст і, сустрэўшы мяне, казаў, што некалькі дзён жыў пад моцным уражаннем ад яго. Захаваю ліст як рэліквію прыгажосці душы мастака.*

Ён шоргаў шуфлядамі стала і сакрэтніка, шукаючы ліст ад Бірулі, і не знаходзіў. Успомніў, што даваў чытаць Ляксандру, брату Вітольда, які жыў у Варшаве, і той напэўна не вярнуў. Гэта спачатку засмуціла, але потым супакоіла: у Ляксандра ліст не згубіцца, хоць гжэчны пан да гэтага часу мог бы яго вярнуць.

Устаў з-за стала, падышоў да каміна і распаліў агеньчык.

А яшчэ Марыя пасля рэпетыцыі запрашала ў тэатр. Ісці не было настрою і толькі таму адмовіўся. Сказаў, што працуе. І не зманіў. Калі было, каб не працаваў? Яна іранічна кінула: "Забіў фантан?" Ён адказаў, што не фантан, але не хоча згубіць і тое малое, што на пэндзлі. Марыя патэлефанавала пасля спектакля, і ён, не падумаўшы, як гэта недарэчы, запрасіў яе да сябе. Тады яна адказала, што не адна, і не зманіла таксама: хіба прымадонна магла быць у гэтакі час, пасля чарговага поспеху на сцэне, адна? Падзякаваў, што ўспомніла. Адзін і праседзеў да поўначы, грэючыся ад агню ў каміне і ўспамінаў пражытае.

Усё гэта было ўчора. А сёння? Да мальберта яшчэ не падыходзіў — не падпускаў сам пейзаж, які стаяў на мальберце, адпіхваў, бо і пачуцці, і думкі гулялі ў іншых пейзажах. На стале ляжаў пачаты ліст да Бірулі, і ён сеў за стол, доўга глядзеў на блакіт у вазачцы, з яго дапамогаю раздзьмухваў цяпельца ў сэрцы, а потым, як яно ўсха-

пілася, узяў асадку, даў на залаты дзюбік з чарніліцы фіялетавую кроплю і, вачыма прабегшы па напісаных раней радках, ім у працяг, зрабіў яшчэ адно адкрыццё і прызнанне:

*Ліст, які я атрымаў ад цябе, можа напісаць толькі закаханы. Я лічу, што чалавек, кахаючы, здольны ўзняцца да неверагодных вышыняў духу.*

Усё роўна як з палёгкаю выдыхнуў тое, што даўно збіраўся сказаць каму-небудзь блізкаму. Аж здрыгануўся ад свае шчырасці. Паклаў асадку на стол, адкінуўся да спінкі крэсла і са шчаслівай рашучасцю адчуў, што гэта ён ведае, магчыма, як ніхто іншы з сяброў, ніхто, акрамя Бірулькі, і што тут сябра выдатна разумее свайго Жукавіні. Іншыя могуць ведаць, ды не могуць сказаць, не ў кожнага ёсць каму сказаць. А што значыць: няма каму? Калі няма блізкай душы, крыкні ў пустэчу, гэтак крыкні, каб ад твайго шчырага крыку ўзняліся і зацвілі сады. Як было ў іх. Было — цвілі сады. І на палотнах, і ў сэрцах.

Успаміны зноў паплылі ў маладосць, але Жукоўскі ўпарта павярнуў іх назад і далей напісаў тое, што мог напісаць толькі самаму блізкаму чалавеку:

*Да работы натхняюся думкамі аб прыгожай жанчыне. Калі не будзе гэтае радасці, дык і жыць нявартa.*

Занадта шчыра ці празмерна рашуча? Тое, што занадта ці празмерна, часта выглядае хлуснёю. А тут — мана ці праўда? Яму без прыгожай жанчыны сапраўды жыць няма ахвоты? Хто ягоным голасам кажа: "Абывацель, дэндзі, прыстойны мастак?" І ці тое кажа, што хоча пачуць сябра, які сваім апошнім лістом даў усе падставы абмяняцца думкамі на вечна прывабную тэму? Сябра заўсёды шчыры, кажа тое, што хвалюе, але ж і яму, Станіславу, хіба калі-небудзь бракавала шчырасці? Ніхто з іх ніколі адзін аднаму не маніў, не крывіў душою, парабкамі сяброўства не былі, сябрамі даражылі, але і тое праўда, што яшчэ мацней даражылі незалежнасцю і свабодай. Тут — поўная згода. І што ў гэтым дзіўнага? Адна ў белых воп-

ратках бацькаўшчына, адны класы на Мясніцкай і настаўнікі, адна маці-прырода, адна вера ў касцёле і ў мастацтве — гэтага хіба мала? А жанчыны таксама ядналі. Думкі пра іх, сцежкі да іх і з імі, без якіх мастаку, ды яшчэ лірыку, жыць нельга, — не крэда абодвух? Жанчыны, вядома, не самая высокая задача і мэта, у жыцці мастака яны не павінны, проста не могуць канкурыраваць з тым, што найвышэй, з мастацтвам, але і з мастацтвам, і з прыродай яны ў адным ланцугу, які заўсёды ляжыць на сэрцы. Хоць адно звяно выкінь — рассыплецца ланцуг, вызваліць сэрца з палону, і тое вызваленне абернецца смерцю мастака. Што ўрэшце мастак вечна шукае і сцвярджае, як не прыгажосць? Не кожны гэтак скажа? Хтосьці шукае іншае? Хай яму шанцуе знайсці іншае. Але ён, Жукоўскі, бачыць вышэйшы сэнс жыцця ў прыгажосці і каханні. Што ёсць прыгажосць? Можа, яна ў знявечаных, вульгарных формах ды лініях, як намагаюцца даказаць звышцывілізаваныя блудныя галовы? Хай даказваюць. Але ён бачыць прыгажосць не ў бязладдзі, а ў ладзе, у гарманічным суіснаванні істоты ці з'явы з прыродаю, з навакольным светам. У жанчыны мог быць прыгожы твар, але пачварныя думкі, нахабныя рухі, неахайная вопратка рабілі і твар нахабным ды неахайным. Блізкія яму жанчыны гэта добра ведалі, іх адчуванне законаў і таямніц прыгажосці шмат у чым супадала з яго разуменнем прыроды, якую пісаў, і таму, шукаючы свой сезам, ён ахвотна браў у спадарожніцы жанчыну. Дарога з ёю была карацейшая і сама па сабе рабілася радасцю адкрыцця прыгажосці.

На гэтай дарозе мастака падпільноўвала небяспека — старасць? І што?.. Яе нельга абысці?..

Задумаўся. Але і тут, каб прадоўжыць ліст, знайшлося, што сказаць:

*Паненак нам прыйшоў час забыць.*

Кропка ў канцы сказа пад асадкаю рабілася ўсё тлусцейшая, расплывалася, быццам ёю дыялог з сябрам заканчваўся. І раптам сам у сябе спытаў: "Што такое мастацтва — жыццё плоці альбо духу?" Зноў задумаўся. Не, тут усё даўно зразумела, але... калі б — плоці, тады б было

так: плоць старэе, і старэе мастацтва. Але ж мастацтва — сам дух, жыццё духу, а дух хіба бывае стары? Дух альбо ёсць, альбо яго няма. Калі ёсць — няма старасці.

Жукоўскі з палёгкаю ўсміхнуўся, твар яго памякчэў, і вочы зноў зачапіліся за кветкі. Апошні радок усё ж варта было закрэсліць, ды як гэта зробіш, каб не прачытаў сябра? Не, немагчыма. Можна прадоўжыць, каб адвесці сябе і сябра ад ганебнай для мастака думкі пра старасць. Ён адхінуўся да спінкі крэсла і зарагатаў. Супакоіўшыся, схіліўся над сталом і прадоўжыў:

*Гэта не жанчыны, а хлапчукі ў штанах. Яны не жадаюць ды і не ўмеюць дагледаць сваё цела. Ад іх пахне потам і цыбуляй.*

Схітраваў? І пажартаваў, і ад праўды не адышоў далёка. А цяпер можна выказаць і больш сур'ёзную думку, якая напэўна нікога не пакрыўдзіць:

*Нам, мастакам-эстэтам, патрэбна культурная прыгажосць. А сваіх паненак трэба ўжо аддаць студэнцікам.*

Ну, так, нават і не студэнтам, а студэнцікам, пачаткоўцам у гэтакай адказнай справе як каханне.

Палягчэла — няблага выкруціўся. Але калі пра культурную прыгажосць — на каго намякае? Ну, вядома, на Жэню. Чаму ніколі не спытаў пра яе ў сваіх лістах да Бірулі? І чаму сябра ніводнага разу пра яе не сказаў ні слова? Дзе яна? Што з ёю?

Зноў схапіўся за асадку, хвалюючыся, як, бывае, хапаецца за пэндзаль, калі вачам адкрыецца нечаканае святло і ў ім успыхнуць незвычайныя колеры.

*Ну як, скажы, не ўспомніць сястрыц Філімонавых? Няўжо, дружа, ты не спрабаваў знайсці яе?*

Фіялкі ў вазачцы стаялі пяшчотныя і празрыстыя, наскрозь свяціліся сонейкам. Якія падобныя да людзей бываюць звычайныя рэчы, істоты, як гэтыя кветкі — да Жэні і Тані. Вытанчанасць і гармонія форм і ліній, цёп-

лы каларыт, водар натуральны, ніводная фарбачка не вылучаецца знарок, не крычыць, не глушыць іншыя, усё да дробязі тое і ў той меры, каб арыгінальна і прывабна гучаў сам твор — шэдэўр прыроды і, безумоўна, мастацтва. Яна — Жэня! А яна — Таня? Спачатку былі Вітольд і Таня. Потым з імі аказалася Жэня. А ўтраіх яны знайшлі яго — чацвёртага. Таня тады пажартавала: “Бірулька-павучок звіў сіло на Стасіка”. А не сказала, што сіло звівалі разам. І як ім удалося? Быў сакрэт, але нядоўгі.

Аднойчы Вітольд прапанаваў сябру сесці на цягнік і з'ездзіць да знаёмага лесніка ў Кісяліху, вёску маленькую і чысценькую, там папрацаваць, заначаваць, а на другі дзень, яшчэ адну раніцу аддаўшы эцюдам, вярнуцца ў горад. Сустрэцца дамовіліся на вакзале. І калі ён, Станіслаў, прыйшоў у сваёй звычайнай рабочай вопратцы — стары макінтош, шэрая ярмолка на галаве, мальберт на плячы, на другім плячы баул з неабходнымі ў падарожжы рэчамі, — Вітольд ужо стаяў на пероне з дзвюма дамачкамі. Раніца была вясновая, пачынаўся май, ласкава грэла сонца, і сябра трымаў над райскімі птушкамі парасон, адмыслова размаляваны ўсімі колерамі палітры. Ён ім штосьці казаў, а яны туліліся адна да адной слаўнымі галоўкамі ў белых капялюшыках і, што няцяжка было заўважыць, захоплена слухалі яго байкі. Станіслаў здзівіўся іх падабенству грацыямі, тварамі, вопраткай, нават падумаў, ці не двайняты. Але была паміж імі і маленькая розніца: бліжэйшая да Вітольда, якую ён трымаў падручкі, стаяла з адкінутай на капялюшык вуалькай, а другая — без вуалькі. Калі Станіслаў падышоў, яны ўважліва яго агледзелі, пераглянуліся, заўсміхаліся. Вітольд сур'ёзна выдаў сябра за славутага мастака і заваёўніка жаночых сэрцаў, а іх, Таню і Жэню, за ахвяраў жывапісу і жывапісных мужчын. Станіслаў зразумеў падтэкст пачутага. Ён сапраўды даволі жывапісна выглядаў побач з імі ў паношаным балахоне, пад ярмолкай не то балагола, не то акадэміка, і вымушаны быў зазначыць, што сябра пазнаецца ў бядзе, даўшы зразумець Вітольду, які ён парсюк, што не папярэдзіў пра спадарожніц. Станіслаў не сумеўся перад мілымі дамачкамі ад свайго балагольска-акадэмічнага выгляду, як не сумеўся і Вітольд, пачуўшы пра парсюка ў свой адрас, і ў вагон усе садзілі-

ся весела. Ужо як поезд рушыў, Станіслаў спахапіўся, што ярмолка быццам прырасла да галавы, змахнуў яе рукою, і тады Таня, якая сядзела насупраць у куточку купэ каля акна, вышэй прыўзняла над светлым лобікам вуальку, здзіўлена паглядзела на яго, а ён спытаў: “Вы не маглі адразу адкрыцца перад прасталюдзінам балагольскага тыпу?” Яна адказала, што за вуалькай не хаваецца ні ад прасталюдзінаў, ні ад мастакоў, хоць у яе ўзросце і такое не забаронена. Ён здзівіўся яе словам пра ўзрост. Аказалася, што цяпер у Тані семнаццатая вясна і што яна хацела сказаць не пра ўзрост, а пра сваё сямейнае становішча, бо замужам, і муж на вайне, марскі афіцэр. Станіслаў адказаў ёй, што ён не ваяр, дуэляў з-за жанчын пазбягае, тым больш з афіцэрамі, але яго сябра не баіцца не толькі марскіх ваўкоў, але і таёжных мядзведзяў. Таня крыху сумелася, што нечакана адкрылася, можа, зарана, згарача, неасцярожна, Станіслаў яе ніякаватасць заўважыў, але не вельмі ацаніў, бо здагадаўся, што раней яна гэтаксама і напэўна куды больш смела адкрылася Вітольду. Так, ён не памыліўся: перад ім сядзела Вітольдава салодкая атрута, за якою нядаўна па снезе ды лёдзе, на Каляды, сябра ганяўся па Маскве на ліхачы, убачыўшы яе ў экіпажы з марскім афіцэрам. Каб супакоіць Таню, ён замоўк, перавёў позірк на акно і заўважыў, што яснае неба робіць яснейшымі думкі і адчуванні, што гэтакую, як цяпер, пару года, вясну ў маі, ён любіць за песню хрушча: “Ж-ж-ж...” — і таму, ад свае любові, мае прозвішча Ж-ж-жукавіні. Таніна сястрычка, якая дагэтуль сядзела ціхенька, да ўсяго і ўсіх прыглядаючыся ды прыслухоўваючыся, раптам ускліднула: “Я таксама люблю хрушча і яго песню — “Ж-жэня я!” Ад такой нечаканай непасрэднасці ўсе весела засмяяліся, і тады ён, Станіслаў, не прамінуў дадаць з яўным намёкам: “У нас з вамі, Ж-жэнечка, дуэлі не будзе, а першы мой пейзаж-ж — важ-ж”. І гэтак, як паабяцаў, атрымалася: ранішні пейзаж аказаўся ў Жэні, а дуэлі былі зусім іншыя — з самім сабою. Спачатку ўсё, як сказаў, спраўдзілася з пейзажам. Былі гульні і гаданні. Жэня і Таня атрымалі на свой суд і выбар два першыя эцюды, кожная, не ведаючы, дзе чый, павінна была выбраць сабе адзін з двух. Жэня выбрала эцюд Станіслава, а Таня — Вітольдаў. Чый выбар аказаўся шчаслівейшы?

Праз год Таня пахавала ў Пецярбурзе мужа, прывезенага ў дамавіне з руска-японскай вайны, і там, у паўночнай сталіцы, засталася. А Жэня жыла ў Маскве, і Станіслаў доўгія гады быў ёю то хмельны, то хворы. Таня прыязджала ў Маскву, яны сустракаліся ўсе разам, але яна ад'язджала зноў — Вітольд перажываў расстанні. Было каханне? Яно было і ў яго, Станіслава, з Жэняй. Цудоўныя былі жанчыны. Ні Станіслаў, ні Вітольд забыць сястрычак не маглі, таму цяпер было не толькі права, але і вялікае жаданне спытаць у сябра:

*Няўжо, дружа, ты не спрабаваў яе знайсці? Дзе яна? Што з ёю? Гэта якраз тое, што нам трэба!*

Чаму напісалася "яна", а не "яны"? Ён, Станіслаў, вядома, пытаўся пра Жэню. Таня выйшла замуж другі раз, зноў за марскога афіцэра, якому пашанцавала больш, чым яе першаму мужу,— з той самай вайны вярнуўся, і ў васемнаццатым пакінула Расію з другім абранцам. Ці ведаў Біруля, дзе яна цяпер, у якой краіне? Мог адшукаць у Маскве Жэню і ў яе дазнацца пра лёс Тані? Але ці ў Расіі Жэня? Вось і пытаўся:

*Дзе яна, што з ёю? Мне гэта так цікава!*

І яшчэ, успомніўшы ўсё тое, пытаўся пра вёску Кісяліху. Гэтак у іх было заўсёды: дзе жывапіс ды прырода — там каханне, дзе каханне — там прырода і жывапіс.

*Я б страціў розум ад радасці, калі б апынуўся з табою ў Каскаўскіх ды Якаўлеўскіх бярэзнічках, дзе на вільготных, памежных з лугам ускрайках якраз цвітуць фіялкі. Пішу, а перада мною на стале ў вазачках гэтыя самыя ў колеры сціплыя, але з якім рамантычным водарам кветкі. Самыя высакародныя з кветак.*

Пра любімыя кветкі звычайна гаварыў фарбамі, цяпер — словамі. Яго фіялкі на эцюдах і на карцінах Вітольд разлюбіў, і тое, што пра іх нагадаў у лісце, павінна было расчуліць сябра, ажывіць у памяці хоць і "Радасны май", дзе чысты і светлы пакой, адчыненыя ў малады сад вокны, на

падаконніку скрынкі з фіялкамі. Хай і карціну ўспомніць, і бярэзнікі ды сасоннікі вакол Удомлі — тыя кветкі. Фіялкі пісаў не толькі тады, як жыў у прыродзе, у вёсцы, але і ў маскоўскай кватэры на Гогалеўскім бульвары. Там былі ўльтрамарынавыя сцены, на іх віселі партрэты ў залачоных рамах, стаяла мэбля з чырвонага дрэва — стыль александрыйскага ампіра — і, як звычайна, у вазах — кветкі. На адной карцін, дзе гасцёўня той самай кватэры, за вялікім круглым сталом сядзела Ірэна, пляменніца, дачка брата Баляслава, маладая і сімпатычная школьная настаўніца, на ёй хустка зялёная ў чырвоныя кветкі, быццам у цыганкі; на фіялетавым абрусе стала сіні фарфор; сіняе і фіялетавае святло ад абруса і фарфору — у вачах у Ірэны, усе тыя колеры нібыта і ў яе настроі, а яшчэ там — вазы з кветкамі, на стале і на падаконніку, усюды, па ўсёй сталовай, — фіялкі, фіялкі, фіялкі. Пісаў у сумным прадчуванні развітання з любімай кватэрай, дзе заўсёды быў настрой працаваць.

Што ж, у кожнага лірыка свае любімыя кветкі. У Левітана — флёксы, у яго, Станіслава, — фіялкі. А ў Бірулі? Ружы, якія Вітольд называў апошнімі кветкамі Левітана? А не апошнія? Флёксы? Невыпадкова Ганна Мікалаеўна Турчанінава, мама Люлю, сваю дачу на Астравенскім возеры высадзіла флёксамі, калі там жыў, пісаў, кахаў і ад кахання страляўся Ісак Ільіч. Белыя ружы — у Бірулі. Ён садзіў іх каля тэрасы і ганка сваёй цудоўнай дачы на Удомлі. А на стале ў вазах, на тэрасе, звычайна стаялі лугавыя краскі. І лясныя. Пад вокнамі — бэз. А пісаць ён любіў яблыневую квецень — бела-ружовую завіруху ў вясновым садзе. І яшчэ — жоўтыя гарлачыкі на вадзе. У кветках сябра быў мнагалюб. Быў? А і ёсць гэтакі, якім быў.

Думкі звярнулі на зусім нечаканую сцежку: чаму ён, Жукоўскі, у кветках адналюб, а Біруля — мнагалюб? Да кветак — як і да жанчын? Калі гэта так, то Біруля цэльны, мнагалюб там і там, да жанчын і да кветак, у той час як ён, Станіслаў, дваіўся?

Падалося, што цэльнасць губляе нават цяпер, хапаючыся ў думках за ўсё адразу, і гэтым сябе заблытвае. Узяў асадку, паглядзеў на яе са спадзяваннем — можа, яна выведзе да нечага аднаго ў думках? І яна — вяла:

*Калі надыдзе час цецерукоў і ў маладых бярозак унізе, на спадніечках, як ты заўважыў, з'явіцца жоўты лісточак, блукаючы па затравянелых бярэзніках з сабакам, пра сваё думаючы, сваё ўспамінаючы, асцярожнай рукою беручы ліловыя галоўчатыя кветкі з маладымі чмялькамі, цвёрдзенькімі ды бухмаценькімі, яшчэ кусацца не навучанымі, мяне ўспомні і загляні ў вёску Кісяліху, дзікую ды зацішную, поўную чароўнай інтымнасці і чысціні. Там, непадалёк ад вёскі, памятаю, мы з Хведарам Ягоравічам усю ноч праседзелі на па́лях. Як звечарэла, выйшла мядзведзіца з дваімі маленькімі. Яшчэ было светла. Трывожна, чуючы штосьці нядобрае, стала лапаю на пень, фыркнула, забрала мядзведзікаў і падалася ў лес. Альма начавала ў хляве за вярсту ад нас. На ўзыходзе сонца мы ўжо былі ў вёсцы, і я ніколі не забуду тую ціхую, росную жнівеньскую раніцу. Адразу за хлявамі закваxтала цяцёрка, і Альма падняла вывадак...*

Як тады, калі з Хведарам Ягоравічам ледзь не ў самай вёсцы выйшлі на цяцёрку ды вывадак, шчыкатлівы халадок лізнуў пад кашуляю цела. Ад аднаго ўспаміну той раніцы? Ці яшчэ і той, калі ў Кісяліху наведаліся з Жэняй ды Таняй? Начавалі ў лесніка. Жэня і Таня — у хаце на ложку, а яны — на сене ў пуні. Божа, ці была тая ноч? Пад раніцу леглі і пад раніцу ўсхапіліся. Было не да сну.

І тады, і пасля, усё жыццё баяліся праспаць маладосць. А цяпер? Самы час адаспацца за маладыя грахі? Але чаму не спіцца, калі маладосць даўно прайшла? Не толькі ў маладосці бывае бяссонніца? Не толькі ў тым узросце ноч — надта вялікая каштоўнасць, каб ёю не даражыць і аддаваць яе снам?

*Ты цудоўна сказаў: "Сэрца не слухае, што яму кажа халодны розум". І хай не слухае. Мы, мастакі, да канца дзён сваіх будзем нявольнікамі жаночае прыгажосці. Цяпер у мяне дзве прыгажуні, абедзве жонкі графаў. Адна з іх бландзінка з блакітнымі вачыма, другая — з чорнымі бліскучымі, як чорны брыльянт. Высокая культура душы і цела. Кахаю абедзвюх. Чарнявая настолькі арыгінальная, з трагічным адценнем прыгажосці, што*

*я з асалодаю назіраю кожны яе жэст незвычайнай вытанчанасці — яна актрыса аперэткі. Але і другая, з цудоўнымі тварам і фігурай, паліць мяне не меншым агнём жадання.*

Жукоўскі рэзка адхіснуўся ад стала. Што гэта робіцца? Як яго кідае ад прызнанняў у любові да прыроды — да думак і прызнанняў у каханні да жанчын. Сумятня ў галаве і ў сэрцы? Біруля гэта абавязкова заўважыць — што падумае? Пасмяецца і гэтакай самай споведдзю, можа, адгукнецца? Дык ці не таму, каб гэтак адбылося, спавядаюся перад сябрам я? Дай Бог!.. Дай Бог!..

Прадчуваючы, магчыма, блізкую радасць ад яшчэ аднаго ліста Бірулі, устаў з крэсла і падышоў да камода, на якім стаяла люстра ў тонкай венецыянскай аправе. На свой твар глядзеў уважліва, як на чужы. Белы, нібы чыстае грунтаванае палатно. Куды дзелася прыродная смугляваcць? Але чаму белы — хіба яму пытацца? Першы раз сябе гэтакім бачыў? Так неаднойчы бывала на паляванні, за мальбертам, з жанчынамі: кроў адхлынала ад галавы. Хвароба нерваў? Хай на хваробы спісвае той, хто яго не ведае, а ён сябе ведаў: сэрца — матор усіх эмоцый. Да гэтакіх абаротаў? Ну, да гэтакіх. Але і цяпер, калі і жанчыны няма побач, і не сустрэўся з мядзведзем, і не за мальбертам — ад чаго? Ад успаміну даўняй сустрэчы з мядзведзіцай і выпадкам цецерукоў ці ад думак пра сваіх прыгажунь? Ад жадання пачуць яшчэ адну Біругеву споведзь? Гэтакія эмоцыі — згарэць можна. Але куды ад іх дзецца? Хіба не гэты самы агонь нараджаў карціны? І хто першы яго заўважыў? Левітан ці Паленаў? Абодва былі любімымі настаўнікамі, і ў абодвух ён быў любімым вучнем. У Левітана вучыўся гармоніі танальных суадносін вады, зямлі і неба, лірычнай настраёвасці пейзажаў, сімфанічнаму гучанню прыроды ў паветранай прасторы. Але гэтага яго тэмпераменту было мала. Прыйшоў Паленаў, адкрыў вачам радасную энергію фарбаў, якой не знаходзіў у мінорнага Левітана, вывеў са змрочных класаў на Мясніцкай у сонечную прастору. Аднойчы ён павёз любімых вучняў на сваю дачу пад Тарусай, на высокі, незвычайна жывапісны бераг Акі каля чысценькай вёсачкі Бёхава — Станіслаў быў таксама сярод тых нешматлікіх шчасліў-

чыкаў. Спакойная Ака нават у дажджлівае надвор'е фасфарычна свяцілася па начах ад бялюткіх бярэзнікаў і светлых пясчаных плёсаў. Быў пір святла і колераў, былі выразныя каляровыя кантрасты, якія не падаўлялі тон і каларыт, кожны пейзаж напаўнялі непаўторным мясцовым водарам. Па рацэ плылі белыя параходы, сцягваючы з берагоў і вады ранішні сырадой туманаў, валаклі за сабою ўсё роўна як даўжэзныя сеці, поўныя жывога сонечнага срэбра. Там ён, Жукоўскі, глыбей зразумеў любімага настаўніка, яго маленькія шэдэўры: "Вёсачку Тургенева", "Рэчку Свінку", зімовыя пейзажы Бёхава, абрамцаўскія "Восень" і "Вору". Той шанаваў уладу сонца над колерамі, за якімі паляваў, вывучаў таямніцы гэтае ўлады не толькі ў сярэдняй паласе Расіі, але і ў Азіі, на Блізкім Усходзе, у камяністых пейзажах Палестыны і Візантыі. Вучыў і вучняў не заседжвацца ў майстэрнях, працаваць, вандруючы, збіраць на палітру ўсе колеры і адценні, у прыродзе не толькі пісаць, але жыць. Станіслаў паверыў настаўніку, адчуўшы ў сабе яго тэмперамент і ў ім — сваю творчую мару. І вось цяпер, калі маладыя гады мінуліся, а белы агонь усё яшчэ палаў неўтаймоўна, даючы сілы пісаць і кахаць, ён зразумеў, што жыццё адбылося як ахвяра мастацтву, і за грахі маладосці не баяўся нават перад самім Панам Богам — служэнне высокаму і прыгожаму ўсё апраўдвала.

Падышоў да акна. За мокрымі ад нечаканага дажджу шыбамі рухаліся размытыя постаці, курчылася і драбнілася графіка замглёных абрысаў. Там нішто не прыцягвала яго ўвагу і не ратавала ад учэпістых і няновых пытанняў: калі белы агонь ад крыві, дык ад чыёй: матчынай ці бацькавай?

— Ма-ляр!..

Голас — гром з неба. Аж сэрца, як тады, у зусім маладога, закалацілася.

Белы агонь, можа, яшчэ і той юначы страх?

З размытых ды патрушчаных за акном кавалкаў і абрысаў збіралася штосьці пэўнае: светлыя калоны порціка, франтончык і карніз над імі, пад імі — ганак, абапал ганка — фасад драўлянага дома з высокімі вокнамі, пад вокнамі — бэз, ружовы і белы. Дом у Старой Волі пад Пружанамі? Бацькаў і мамін, які ён, Станіслаў, колькі разоў

пачынаў пісаць фарбамі, пакінуўшы яго пасля мамінай смерці, і дапісаць не мог. Бачыў дом у цёплым пейзажы з маміным акном, расчыненым да сонца і кветак, але заўсёды, ледзь браўся за фарбы і пэндзлі, чуў бацькаў вокрык: "Ма-ляр!" — фарбы ў вачах гаслі, і рукі апускаліся. Напісаў дом пазней, калі мамы ўжо не было, а ён яшчэ па волі бацькі вучыўся ў Беластоку ў рэальнай вучэльні. Дом атрымаўся мокры, абсцябаны дажджом ды злым ветрам, замглёна-шэры, з размытымі формамі. Нікому работу не паказаў, сам глядзець на яе баяўся. Дом плакаў, як плакала душа, маму нагадваў, яе залатое сэрца, цеплыню і пяшчоту. Паказаў эцюд Южаніну, любімаму настаўніку малявання. Тады Сяргей Мікітавіч і сказаў, што ў яго шчаслівы талент, які нельга губляць. Яны пасябравалі. Сам яшчэ малады, але ўжо выдатны мастак, інтэлігентна-высакародны і чулы, Южанін замяніў яму бацьку і маці, вывеў на дарогу ў мастацтва, даў сваё блаславенне і тое неабходнае, што павінен быў даць ды не даў бацька — першую матэрыяльную падтрымку. Бацька хацеў вучыць яго, як і старэйшага Баляслава, на механіка ці лесніка, абы меў у жыцці кавалак хлеба, і не жадаў бачыць мастаком. Але сын не думаў пра той кавалак. Яго захапіў жывапіс, ды так моцна, што, не паслухаўшы бацькі, паехаў шукаць Левітана, Паленава, Сцяпанава. Бацька гэта не дараваў. Ён не здагадваўся, што сынава ўпартасць ад яго, што каса і камень — адна прырода і парода. Праўда, натура бацькава была ўсяго паловаю натуры сына, другою паловай была ўражлівая душа маці. Два непадобныя светы, што жылі, не знаходзячы згоды, пад адным дахам у Старой Волі, аказаліся ў адным целе сына, і гэта быў сімбіёз выбуховай сілы, які шмат абяцаў, але і пагражаў не яму аднаму. Тое, што абяцаў, ці не першы адчуў Южанін і ці не другі — Паленаў, але тое, чым пагражаў, першай адчула маці, калі, калоцячыся ў сваіх штодзённых страхах, неаднойчы хавала малога Стасіка ад бацькавай жорсткасці ў сябе пад спадніцай. Матчыну тонкую лірычную душу і бацькаву жорсткасць, што, сутыкнуўшыся, выкрасалі белы агонь, сын пачуў у сваёй крыві пазней, калі маці памерла і ён цэлы месяц згараў у ложку на мяжы жыцця і смерці, а дактары не знаходзілі сродкаў, каб ўратаваць хлопчыка.

Уратавала Маці Боская, прысніўшыся, ці не — з'явіўшыся да яго ўначы. Ужо, здаецца, канаў, калі яна схілілася над ім і сказала: "Я — Панна Марыя, маці нашага Пана Бога і твая маці нябесная. Я прынесла табе, сыне мой, Крыж Гасподні. Пацалуй Яго — на гэта ёсць воля Спаса нашага". Яна паклала на далонь са сваіх грудзей Крыж, які ззяў, нібы сонейка, і паднесла Стасю. Ён прыўзняўся над падушкаю, пацалаваў Крыж, лёг і неўзабаве адчуў, што да яго вярнулася мама, якую звалі Марыяй, як і Маці Боскую. І са шчымлівым вобразам у вачах і ў сэрцы заснуў. А прачнуўся — была раніца, можа, дзень, па шыбах у акне гуляла сонейка, на краі ложка сядзела Серафіма, старэйшая за яго на чатыры гады сястра, трымала перад ім у руках блакітны кубачак з зеллем і пыталася:

— Чаму ты, Стасік, сёння гэтакі белы? Цэлы месяц гарэў чырвоным полымем, а сёння тваё полымя белае.

Ён глядзеў у акно на сонейка, а казаў Серафіме:

— Мне сёння добра.

Хацеў расказаць сястры пра Маці Боскую і Крыж Пана Бога, ды не сказаў, не адважыўся выдаць таямніцу. І толькі пазней, праз дзесяткі гадоў, скончыўшы ўсе свае мастацкія акадэміі, сам стаўшы акадэмікам жывапісу, зразумеў, што белы твар ад белага агню, а белы агонь ад бацькі ды мамы, ад сутыкнення іх душ, што белы агонь — ягоныя шлях і крыж.

Жукоўскі ўстаў з-за стала і падышоў да каміна. Паленцы ў ім дагарэлі, агонь ачах. Ён выйшаў у прыхожую, адчыніў шафу, выбраў гальштук, зацягнуў яго вакол шыі на шырокі, як заўсёды насіў, вузел, звярнуў увагу на каўнер сарочкі і спачатку падумаў, што сарочку трэба заменіць, надзець свежую, ды адразу і перадумаў, супакоіўшы сябе тым, што не свята, на будзень каўнер дастаткова свежы, заправіў гальштук на грудзях пад камізэлю, зняў з вешалкі і апрануў пінжак, узяў парасон і выйшаў за дзверы.

На вуліцы імжыла. Нуднае шэрае надвор'е для Варшавы не было ў навіну і ўлетку, ён гэтакае не любіў і тон замглёна-шэрых пейзажаў стараўся не пускаць на свае палотны.

Успомнілася размова з Бірулем на выставе каля работ Паленава: "Паглядзі, стары, у Васіля Дзмітравіча тон

звонкі, яркі, ■ ў нас з табою ўсё быццам мукою прысыпанае. Мы жывапісцы ці млынары?"

Усміхнуўся. Тады яны былі маладыя, молада жартавалі і самі сябе каралі молада, лёгка. Але цяпер не падсыпаць жа ў сваё варыва тую вучнёўскую муку?

Імжа, якую ветрам несла з Балтыкі, соллю пякла губы.

Дождж сыпануў касы, надзейна схавацца ад яго пад парасонам было немагчыма, і Жукоўскі, далёка не адышоўшы ад свайго, на вуліцы Кошыкавай, дома, ускочыў на ганак кавярні пад стрэшку, дзе сутыкнуўся з панам Мечыславам, які якраз выйшаў з кавярні.

Куды ў дождж без парасона спяшаўся пан Мечык? А куды ■ парасонам — пан Станіслаў? Абодвух дождж перахапіў на дарозе ў Таварыства заахвочвання мастацтваў, велічны будынак якога стаяў непадалёк у цэнтры Варшавы. Праўда, непадалёк ён быў для добрага надвор'я і далекавата, калі бегчы пад дажджом. Жукоўскі абрадаваўся і сустрэчы з панам, і таму, што абодва ішлі ў Таварыства. Пан славіўся як графік, яны разам былі ў Таварыстве ягонымі сябрамі, ■ праз колькі дзён меўся сабрацца Камітэт, кіраўнічая рада Таварыства, і Жукоўскі прызнаўся, што мае думку прапанаваць калегам наладзіць у сваім палацы выставу Бялыніцкага-Бірулі. Пан Мечыслаў ведаў Бірулю як сябра Жукоўскага і паабяцаў падтрымку не толькі сваю, але і сваіх блізкіх мастакоў. Жэст калегі парадаваў, бо якраз гэта і клапаціла — загадзя трэба было мець падтрымку, выносячы прапанову на разгляд Камітэта. Тым больш што давяраў пану Мечыку, як, можа, мала каму з варшаўскіх мастакоў, памятаючы, што, калі пераехаў сюды з Расіі, той першы вітаў яго выставы ў Варшаве ды ў Кракаве.

Дождж аціх, і яны сышлі з ганка. Ісці далей без парасона пан не адважваўся, бо злёгку яшчэ імжыла, а на ім быў добра адпрасаваны касцюм. Ісці ж у Таварыства Жукоўскаму, займеўшы падтрымку аўтарытэтнага сярод мастакоў чалавека, гаварыць пра тое самае з іншымі сябрамі, ды яшчэ ў ягонай прысутнасці, было б не вельмі прыстойна, і ён прапанаваў парасон калегу, заўважыўшы, што сваёй падтрымкай пан робіць непатрэбным яго далейшае падарожжа. Той прыемна ўсміхнуўся, падзяка-

ваў за павагу і, пацiснуўшы адзін аднаму рукі, яны развіталіся.

Жукоўскі вярнуўся дадому.

У пакоі, што быў яго кабінетам і майстэрняй, доўга стаяў каля акна, глядзеў на ніцае хмарнае неба. Хоць сустрэча і размова з панам Мечыкам прыўзнялі настрой, нізкае неба цяжарам клалася на душу, замглёна-шэры гарадскі пейзаж за акном вяртаў да меланхалічных настрояў. Ён любіў высокае неба і глыбокую вакол прастору і, калі гэтага не было, адчуваў сябе зверам, загнаным у жалезную клетку, тады рабілася цесна, млосна, ажно задыхаўся. Ці не таму ўсе апошнія дні працаваць было цяжка — ад непагоды? З майстэрні мог не заўважаць тое свінцовае нізкае неба, цяжкія шэрыя хмары, нудную імжу, але гэтак толькі здавалася, што мог, гэтакае магло атрымацца ў эмацыянальна ўраўнаважанага чалавека, а ён даўно страціў звычайныя нормы адчуванняў, і тое, што рабілася ў небе са свяцiламі, хмарамі, светлымі ды шэрымі плямамі, адчуваў нават уначы, у сне. Мог не думаць пра гнілое надвор'е, не бачыць, як хмурыцца і плача неба, але толькі тады, калі наплывалі светлыя думкі і вобразы. Як цяпер: здалося, нібы сонечны прамень прарваў шэрань, з'явіліся іншыя, як за акном, пейзажныя абрысы ў вачах — не варшаўскія, але знаёмыя. Ён падышоў да стала і апусціўся ў крэсла.

Мой брат духоўны...

О не, другі раз на паперы гэтае думкі не вывеў, напісаны ў пачатку ліста да Бірулі радок паўтарыў адно ўнутраным голасам, пачуццём, глыбокім уздыхам, узяў ноту, акорд, каб з ранейшым даверам і той самай шчырасцю прадоўжыць ліст.

*Ты мне казаў, што маеш жаданне даслаць Янінцы некалькі сваіх карцін. Дык не забудзь падпісаць панекалькі сваіх карцін. Увосень, як настане сезон, я выстаўлю іх у польску. Увосень, як настане сезон, я выстаўлю іх у Таварыстве заахвочвання мастацтваў. Маральны поспех гарантую.*

Што яшчэ варта было сказаць сябру? Пра поспех матэрыяльны? Але гэтых гарантый ён даць не мог, ды і Біруля пра іх звычайна не думаў, выстаўляючы свае работы.

Матэрыяльным бокам да аўтара карціны паварочваліся нечакана. Людзі, якія любілі і разумелі жывапіс, іх не абміналі, купцы знаходзіліся, іх было мала ў войны, у галадоўкі, ды і не гэта галоўнае ў мастацтве. Бірулю ў Варшаве хацелася паказаць з іншай прычыны і нагоды. З якой? А вось:

*Мала хто з мастакоў глыбока ведае і разумее прыроду. Асабліва тут, варшаўскія. Кожны піша адзін аблюбаваны матыў і не далей за яго. Замежныя, заходнікі, такія самыя.*

Сапраўдная прырода, калі не дзікая, дык натуральная, не спаганеная чалавекам, такая, якою яе ведае, бачыць і піша сябра, — вось што трэба Варшаве.

Жукоўскі даўно хацеў падзяліцца з Бірулем сваімі польскімі назіраннямі ды ўражаннямі і цяпер адчуў задавальненне, што немалаважнае для абодвух знайшло свой, да месца, радок. І яшчэ падумаў, што з гэтага радка здагадлівы сябра адчуе, чаго яму, Станіславу, не хапае ў Варшаве. Тут ён сумаваў па прыродзе, да якой сэрца прыкіпела з маладых гадоў, па карцінах сяброў маладосці, выдатных паляўнічых, тонкіх пейзажыстаў. Ад адной гэтае думкі захваляваўся. Падышоў да сцяны, на якой над самую столь вісела футра мядзведзя, паклаў далоні на футра. Яно, ■ густым мяккім падшэрсткам, грэла і рукі, і сэрца. Дыхнула водарам векавога лесу. Самога мядзведзя пачуў — ягоны, ■ лежні, дух. Жывога ўбачыў. І векавыя хвоі, прыціхлыя яліны. Сяброў на паляванні. Мужыкоў.

Звер быў аграмадны, цёмна-буры, з белым каўняром і белым, на грудзях, гальштукам, што мала каму з паляўнічых, нават з бывалых, шэнціла сустрэць хоць аднойчы. Прыгажун, пан, як казаў Нестар, мужык, што жыў на возеры Молдзіна, дзе шмат гадоў жыў і Жукоўскі з сям'ёю. Звер дужа шкодзіў вёсцы. У аднаго Нестара, мужыка гаспадарлівага, заваліў карову і бычка. І без ягаднага ласунку жыць не хацеў. Прыйшла восень, а чырвоных рабін няма, неўраджай, дык ён, злосны, наганяючы на зіму ненабраны ягадны тлушч, за адну ноч спляжыў ніўку салодкага аўсу. Нестар быў паляўнічы, але ў тое лета звер

забраў у яго пістонаўку. Заснуў ён на ўзлеску, прываліўшыся спінаю да цёплага дуба, стрэльбу побач паклаў, а касалапы з лесу выйшаў і падышоў да яго гэтак ціха, што не пачуў. Прачнуўся ад знаёмага фуркання — звер аграмадны стаіць перад ім дыба, у лапах трымае ўжо сагнуты, з патрушчаным ложам, ствол, нюхае-чмыхае ды мордай варочае, незадаволены парахавым смуродам. Ад перапуду Нестар лахі пад пахі ды ў лес. Нікому не прызнаўся пра здарэнне пад дубам. А ўжо як мядзведзь пасаваўся ў аўсянішчы, прыехаў плакацца да Жукоўскага. І вось тады, праз дзень, адбылася іх сустрэча з лясным царом.

Ноч выдалася светлая, пад поўняю ў бязвоблачным небе, суцішная, ажно ўрачыстая, з выразным і строгім суседствам аспідна-чорнага тону і ювелірных жамчужна-срабрыстых ліній. Ніўка ляжала прыбраная. Нестар яе пасля скасіў, як мядзведзь упляжыў, сабраў, што засталося ад міласці звера, але прынаду — дзве бабкі снапоў каля мяжы — з мужыцкай хітрасцю пакінуў, спадзеючыся на тых снапах аддзячыць зладзюгу за яго нахабныя падарункі. З трох бакоў вакол ніўкі стаяў стары хвойнік з падлескам, і там, як узышла поўня, паляўнічыя схаваліся. Якраз і ветрык ад ніўкі падкатваўся, абдаючы твары цёплай духмянасцю спелых аўсоў. На пожню лёг туман, падмыў бабкі. Тут і мядзведзь аб'явіўся. У вочы спачатку кінулася цёмная круглая пляма, нібы цень ад поўні, калі б за поўняй у небе было яшчэ адно свяціла, каб кінуць цень. Пляма кацілася мяжою ў канец ніўкі. Станіслаў спачатку не здагадаўся, што па-над ніцым туманам рухаецца галава мядзведзя, падумаў — пляма ды пляма, падобная на калоду, але здагадаўся Нестар, шапнуў, што злодзей абыходзіць ніўку, хоча пераканацца, што ён тут адзін, і, як яе абыдзе, тады, можа, не пачуўшы людзей, да бабак вернецца. Гэтак усё і атрымалася. Мядзведзь звярнуў з мяжы нават раней, як чакаў Нестар, ступіў на ніўку, быццам з ракі на бераг, атросся, і пожняю рушыў на паляўнічых. Быў выгадны момант стрэліць у лабаціну, слабое месца ў звера, ды Станіслаў загледзеўся на прыгажуна, яго вопратку, якімі танамі пераліваласл багатае футра, націсьнуць на кручок не паспеў, а ў наступны момант той нечакана зрабіў два лёгкія

скачкі, апусціўся на заднія лапы ў бабках, абхапіў пярэднімі бліжэйшую да сябе, сунуў галаву ў авёс і моцна, з асалодай ды радасцю зачвякаў. Тут ужо нельга было спяшацца са стрэлам, варта было пачакаць, калі прыблуда адарвецца ад смакаты, падыме хоць галаву. Але раптам уся бабка снапоў адарвалася ад белай зямлі, паднялася і паплыла на паляўнічых. З бабкаю ў пярэдніх лапах, на адных задніх ішоў мядзведзь, нёс снапы ў лес, схаваўшыся за імі сам. І тут — як стрэліш? Касалапы пачуў пах пораху — спыніўся. Снапы абсунуліся ў яго на грудзях, і толькі тады Станіслаў убачыў ужо не ў тумане, не здалёк, а блізка, тварам да твару, круглую галаву звера і пад галавою — белыя каўнер і гальштук. Трымаючы перад сабою снапы, звер глядзеў з-за іх на яго. "Плі, барын!.." Пачуў адно "Плі!.." — і грымнуў стрэл. Мядзведзь здрыгануўся, снапы зваліліся на зямлю. Звер заўважыў, як паляўнічы матлянуўся за дрэва, кінуўся туды ўсёй сваёй хмараю, але сослепу ўрэзаўся ў хвою, адскочыў і зароў ад болю, разявіўшы аграмадную клыкастую пашчу. Станіслаў бачыў, як з пашчы па высунутым вялікім языку плыло штосьці чорнае, нібы смала, на грудзіну звера, на яго белыя каўнер ды гальштук. То сцякала чорная ўначы кроў, запальваючы па краях ручая два іскрыста-светлыя, быццам срэбра, шнурочкі. Стрэл трапіў у самую лабаціну, і гэта ўратавала, бо стрэліць другі раз звер ужо не даў бы. Там і свая кроў абвалілася ў целе. Не заўважыў, як стрэльба апынулася ў руках у Нестара, але стралянь яму не давялося — мядзведзь ляжаў на снапах. У тую ж ноч селянін адвёз Станіслава на кані дадому, а ўжо як лёг снег — прывёз вырабленае футра і ладную бочачку мядзведжага тлушчу. Казаў, што касалапы заважыў аж дванаццаць пудоў і сала месцамі было на шырыню далоні.

Як жа забыць тую ноч, яе аўсяна-тумановую цішыню, мядзведзя з бярэмем снапоў, яго надзіва жывы партрэт пад белымі каўняром ды гальштукам у святле поўні?

Ажно цяпер ад успаміну халодны пот пад сарочкай. Тварам уткнуўся паміж рук у футра на сцяне і толькі тады, як пастаяў ды супакоіўся, адышоў ад футра і апусціўся ў крэсла.

І ты, Менычу, не ўяўляеш, якая шчаслівая, што бачыш родную бярозку, іван-чай...

Спахапіўся: адкуль гэта — Менычу, бярозка, іван-чай? Ах, Марыя, дачушка брата Баляслава! Гэтак ён напісаў ёй аднойчы з Варшавы, і тыя словы былі стогнам душы па сапраўднай прыродзе, як цяпер гэты ўспамін сустрэчы з царом лесу.

Прымружыў вочы і ўбачыў не толькі прыгожы, але і цёплы інтэр'ер: вялікі светлы пакой, святочны стол, на светлым абрусе ў талерках велікодныя яйкі — чырвоныя, ліловыя, блакітныя, — торты, крышталь графіна, кілішкаў. Усё на стале стаяла і ляжала паміж кветак, кветкі ў скрынках — лясныя фіялкі, а пасярэдзіне стала — глыбокая міса, у ёй — малады авёс. Блакіт кветак разліты па стале, у паветры пакоя, адбіваецца на ўсім, што вакол іх, блакіт і ў вокнах, адчыненых у сад, у садзе — маладая празрыста-сонечная зелянінка, усё ў пакоі і за акном такое чыстае, светлае. Вясна? Вялікдзень. Але авёс? Ну, так — кветкі Менычу. Гэтак яна казала: "Вашыя кветкі, Станіслаў Юльянавіч, фіялкі, а мае — авескі." Дзе было гэтае маладое свята? Вёска, маёнтак? Астраўкі? Паддуб'е? Усе вёскі там, дзе возера Молдзіна, па яго берагах. Але тут,— суседняя з імі,— Усясвяцкае, стары маёнтак Мілюковых. Гэты цудоўны куток ён знайшоў яшчэ маладым мастаком, але Вялікдзень — "Свята вясны" — пісаў пазней, пераехаўшы туды жыць і працаваць з Беражка. Калі гэта было? У шостым ці сёмым годзе? Пасля таго як там, на балконе белага дома, што выходзіў да возера, напісаў адну з самых сумных сваіх карцін таго часу "Самотныя думкі" з Ляксандрай Ляксандраўнай у белай сукенцы, сваёй першай жонкай. Што знайшоў на новым месцы? А тое, што заўсёды шукаў: спакой для работы, людзей, якія любілі жывапіс і мастакоў, стваралі ўмовы для працы, пасаблялі. Туды да яго пасля прыехалі Соня, другая жонка, Галіна Яўменаўна і Таня, маці і малодшая сястра Соні, брат Баляслаў з жонкай Алімпіядай і дачкою Марыяй, той жа Менычу, а яшчэ ў іх жыла пакаёвачка Паша, кожны дзень прыходзіла сяброўка Марыі, таксама Марыя, жыла як у сваёй сям'і. З дзвюма Марыямі якраз і ладзіў той велікодны стол. Загадзя, калі снег у лесе толькі пачынаў плавіцца, з'явіліся першыя рудыя праталіны, яны пабралі сякеры, рыдлёўку, вялікі кухонны нож, сталі на лыжы і пайшлі ў лес. Фіялкі выкапвалі

з зямлёю. Дома збілі з дошак вялікую скрыню, пад падлогаю накапалі ў яе цёплай зямлі і пасадзілі кветкі. А ў другой скрыні пасеялі авёс. Прыйшоў Вялікдзень — кветкі зацвілі. Скрыня аж палала блакітным вогнішчам. І авёс вырас. Велікодныя яйкі ляжалі ў талерках паміж кветак і аўсу, кветкі з аўсом ды яйкамі былі на шырокіх падаконніках, і вясновы настрой у пакоі зліваўся з цудоўнай вясною за акном, ■ бярозавай алеяй, якая ад дома вяла ў глыбіню парка, асветленага чыстым блакітам неба. Гэта і напісаў. А як закончыў карціну — шырока адчыніў дзверы, паклікаў усіх, хто быў у доме. Якраз выдалася раніца першага велікоднага дня. Усе кінуліся адзін да аднаго цалавацца: “Хрыстос уваскрос!” Божа, якое гуло свята! А весялейшай за ўсіх выглядала моладзь — Марыйкі, Танечка, Паўлуша, вясковы хлопчык, сябар Тані. Ён, Станіслаў, іх усіх вучыў чытаць прыроду, назіраць, пісаць словам і фарбамі, яны ж казалі, што жывапісцамі не будуць, бо не жадаюць канкурыраваць са Станіславам Юльянавічам, што яны толькі яго памочнікі. Памятаў, як аднойчы зімовай ноччу на беразе возера абедзве Марыйкі асвятлялі яму газавымі лямпамі, прызваўшы на дапамогу поўню ў небе, палітру і палатно на мальберце, рабілі побач з ім усё, што ён прасіў, а ён тую ноч пісаў. І на вадзе ■ пляменніцай Марыяй пісаў, седзячы ў лодцы. Штодня працаваў на двух ці трох мальбертах. Сонца ды месяц кружылі вакол зямнога шара ці зямля вакол сонца, месяца, зорак, а ён — вакол іх усіх з усімі сваімі фарбамі ды палотнамі, страчваючы адчуванне, хто і што вакол каго і чаго кружыць. Вялізны і светлы лімонна-жоўты знадворку дом, у якім жыў на беразе возера, быў далёка ад сталіцы схаваны ў лесе, але чуткі, што працуе, нібы вар’ят, туды даляталі, кагосьці непакоілі, і аднойчы, каб пераканацца, так гэта ці не так, возерам на лодцы з дачы, якая была непадалёк на той самай вадзе, прыплыў Макоўскі, сын Уладзіміра Ягоравіча, выдатнага мастака і настаўніка, які любіў свайго вучня па вучэльні на Мясніцкай і за ім, за яго творчасцю сачыў. Была вясна, цвілі ландышы, зязюлі цэлымі днямі шчодра дарылі ўсім гады жыцця, у доме і на возеры, дзе працаваў, было ціха, сям’я выехала, каб яму не перашкаджаць, праца ішла. Макоўскі завітаў у майстэрню, а там — Маргарыта Кёніг за маль-

бертам, якую ён, Жукоўскі, вучыў пісаць. Яна адразу са слязамі да Макоўскага: Станіслаў Юльянавіч прымушае працаваць, як сам працуе, часу не пакідае нават на жарты. А Макоўскі ў яе пытаецца: "Вас ён таксама прыкаваў да трох мальбертаў?" Мілая Маргарыта! Калі ён, Жукоўскі, адразу пасля першай рускай рэвалюцыі адкрыў у Маскве сваю прыватную школу жывапісу і ў яе ахвотна паплыла моладзь, прыплылі нават Бурлюкі з Маякоўскім, прынеслі на галовах свае модныя цыліндры, яна, такая вытанчаная і слаўная, таксама яго знайшла. Не спазніўшыся ў жывапісе, спазнілася ў іншым сэнсе, бо раней за яе прыйшла Соня Квяснецкая. А калі б раней — Маргарыта? Магчыма, што засталася б з ім на ўсё жыццё. Ды ўжо была Соня, якая прыйшла да яго вучыцца жывапісу раней за Маргарыту. Тады ён якраз развёўся з Ляксандрай.

А пра тры мальберты Макоўскі спытаў недарэмна:

— Кажуць, вы пішаце сэрцам?

— Няма сэрца — няма і жывапісу, — адказаў ён.

— У такім разе як, натхніўшыся на адзін пейзаж, у той жа дзень пісаць другі і трэці?

— А так, як гэта робіць прырода. Паглядзіце на возера, на астравы, на неба — дзе ёй не хапае натхнення? У лініях, колерах, танах, паўтанах, святлаценях? Праз нейкі час, вельмі хутка, усё навокал будзе іншым, але і тое іншае будзе шэдэўрам натхнення. Зноў ды зноў, увесь час і ўсюды ювелірная работа мастацкага генія.

— Прыродныя сілы невычэрпныя. А сілы чалавека?..

— Мастак не можа быць рабом абставін. Ён не можа чакаць, калі да яго прыйдзе натхненне. Да мяне яно прыходзіць, калі я працую. За дзень шмат якія сюжэты і вобразы могуць узрушыць. А ўжо як загарэўся — не магу спыніцца. Чым даўжэй гарыць вогнішча, тым мацнейшае полымя. Абы хапала паліва.

— Так-так, паліва! У прыродзе яго дастаткова. Але ці шмат яго ў чалавека? Маргарыта Юльеўна скардзіцца.

Жукоўскі адвёў госця ўбок, каб іх ніхто не чуў, і адказаў з усмешкаю:

— Мой дарагі сябра. Маргарыта Юльеўна гэтак доўга не захаплялася б у лясной глушэчы пейзажамі, калі б у Станіслава Юльянавіча скончылася паліва...

Цяпер, захваляваўшыся, ён падхапіўся з крэсла і выйшаў у суседнюю з майстэрняй гасцёўню.

Пасярэдзіне пакоя стаяў круглы стол, засланы фіялетавым абрусам, на ім — кітайская ваза з празрыстага салатавага шкла, у вазе — чырвоныя ружы з пяшчотных ручак панны Гелены. Ружы купіў за злоты і пацалунак тры дні назад, калі Соня ехала ў вёску, хацеў, каб кветкі ўзяла з сабою, а яна іх яму пакінула. Ставіла ў вазу і шаптала, ведаючы, хітруння, што ён чуе, каб яны ахоўвалі мужа ад паненак і кабет, пакуль не вернецца, нават сказала, ад якіх паненак і ад якіх кабет: ад Марыі, ад Гелены, ад Агнешы. Здзівіўся, што назвала Гелену, якую, як яму здавалася, яна яшчэ не заўважала. А не, заўважыла, не памылілася. Але чаму, пакідаючы яму ружы, не ўспомніла Стэлу?

Ах, Соня! Такая цяжкая работа жаночаму сэрцу — рэўнасць, асабліва калі для рэўнасці вялікі выбар і немагчыма не разгубіцца: Марыя, Гелена, Агнеша, Стэла. А яшчэ ж непакоіць думка: гэтыя — вядомыя, тут нічога даказваць не трэба, а колькі тых, пра якіх і нюхам не чуе, не здагадваецца? А жанчыны, што былі раней і засталіся ў памяці, у сэрцы? Да іх, былых, хіба рэўнасць пагасла, калі тыя пачуцці ён, мастак, да гэтага часу ўкладае ў свае пейзажы? Соня сама мастачка ■ вельмі тонкім густам, прайшла яго школу, пэндзаль у руцэ трымае прафесійна, яна не можа не ведаць, як пачуцці мастака трансфармуюцца ў яго жывапісных вобразах. Пра Філімонавых, Жэню ды Таню, ведае таксама, іх ад яе не хаваў, бо даўно тое было, у маладосці, калі яшчэ не жыў з Ляксандрай, сваёй першай законнай нітачкай. Але пазнейшыя мелі зусім іншы статус.

На стале каля вазы, пад ружамі, стаяла бутэлька з віном у акружэнні трох рубінава-чырвоных кілішкаў. Наліў ва ўсе тры. Каму другі ды трэці? Хто, акрамя Марыі, мог завітаць? Трэці — ён ці яна? Маглі быць Агнеша, Стэла. Мог быць Бірулька. Ён — тут. З кім, як не з ім, уся гэтая размова пра прыроду, жывапіс, каханне? Пра жывапіс — як каханне.

Узяў са стала кілішак, адзін з трох:

— За вас, сябры! За жыццё, як кажуць там, у Расіі. Ды і тут, у Польшчы, гэтак кажуць.

Засяродзіўшыся на пачутай у грудзях мелодыі глытка, які гаркава-ядлоўцавым мёдам каціўся ў ім, грэючы цеплынёю зямлі і сонца, перавёў увагу на кроплю, што ад святла ў акне і ад святла ў рубінавым кілішку зіхацела на руцэ. Такая драбяза — кропля, а колькі ў ёй гульні сонца, колераў, цеплыні, хоць за акном і пахмурна, і дождж. Як цікава чуць таемную прыроду рэчаў, колераў, святла, кроплі віна. З кілішка выліў рэшту ў рот, заплюшчыў вочы, прыслухаўся: што там, у ім, робіць глыток віна. Разводзіць вогнішча? У адным глытку столькі агню, жыцця!

Паставіў на стол пусты кілішак, узяў другі і трэці ў абедзве рукі, з імі выйшаў у гасцёўні ў свой пакой.

На мальберце стаяў пейзаж. Пісаў яго вясною ў Белавежы, блізка ад Старой Волі. Быў самы разгар вечара, на пушчу садзілася чырвонае сонца. Трывожнае малінавае святло расплывалася па даляглядзе, яшчэ большай трывогай адбівалася праз антрацытава-сіні тон вады ў вірах ляснога возера, ляжала на пясчанай кручы, на кроне дуба, усюды — чэпка, але не грэла, як грэе звычайна чырвань. Малінавы холад і прымусіў, калі ўжо вяртаўся дадому напрацаваўшыся, зняць з пляча і паставіць мальберт. І зноў працаваў да апошняй хвіліны, пакуль ззяў і рэфлексіраваў малінавы тон. Часу для работы было мала, паўгадзіны, не болей — у плямах ультрамарыну і густой шэрані чырвань гасла хутка,— і ўсё ж паспеў адчуць, схапіць галоўнае: у колерах, у апошніх водбліскаx святла, у доўгіх густых ценях — драму Бацькаўшчыны, з пушчанскага вогнішча выхапіў і кінуў на палатно пякельнае вугалле, кантрасты святла і цемры. Глыбіні, жывапісныя і гістарычныя, убачыў у матыве, адчуў, але ці шмат зразумеў і асэнсаваў у тым, што адчуў, убачыў? У жывапісе — так, што трэба для карціны. А ў філасофіі матыву, яго трывогі? Чыёй гістарычнай драмай дыхнула чырвонае вогнішча? Расіі? Польшчы? Літвы? Ці, можа, з Літвою разам — Беларусі? І хто ён сам: паляк, расіец, беларус? Католік, як мама і як бацька, роду шляхетнага, але этнічна — хто? Па касцельных кнігах — паляк, а ў стасунках з зямлёю, якая дала яго свету, што называецца Літвой ці Беларуссю? І ў якім пажары, з чые ласкі, ад чыіх рук ды волі згарэў герб роду? Гэта, можа, не пытанне для маста-

ка-пейзажыста, апантанага прыгажосцю зямлі, вады і неба? Гэта — не жывапіс? А калі натура караніцца ў гісторыі, даўніне, калі мастаку трэба адчуць настрой, адпаведны гэтай натуры, току яе крыві, тады хіба не трэба ведаць гісторыю? Хіба не ў колерах зямлі, вады і неба спрадвек, ад пачатку сваіх пачаткаў нараджаецца і памірае чалавек? І гэтак — яго род? Ёсць, кажуць, універсальны, на любы тэмперамент адказ: мы ўсе славяне, ад Афета, сына Ноя, Богам уратаванага ў каўчэзе, і якая розніца — паляк ты, русак ці беларус? Але тады чаму там, дзе мы — адна сям'я з Афетам-бацькам, такая чырвоная кроў, чаму гэтак трывожна на сэрцы ад густой і ліпкай, нібы кроў, чырвані? Прыроду і крыніцу колераў мастак павінен ведаць ва ўсіх вымярэннях, іначай, калі не ведаць, ці будзе хваляваць сам колер?

За акном па лісці каштанаў пралапатаў дождж, але хутка супакоіўся; пасля яго ў пакоі пасвятлела, нават нібыта пачысцела, як святлее ды чысцее вясною ці ўлетку пасля спакойнага, пад сонцам, дожджыку. На дне кілішка, які Жукоўскі трымаў у руцэ, загарэўся драбочак іншай, як на пейзажы, чырвані, цяплейшай, сугучнай з аранжавымі танамі, але ў другім кілішку, які трымаў у другой руцэ, далей ад акна, было цёмна і глуха, быццам ён быў наліты іншым напоем. Абодва паставіў на столік, узяў палітру, пэндзлі, угледзеўся ў матыў на мальберце. Былі і тут, перад матывам, супярэчлівыя адчуванні: адны — што пейзаж зроблены, апошні мазок пакладзены, ёсць дакладная мера чырвані, а ў ёй трывога, загадкавая і дастатковая; другія — што пейзажу чагосьці нестае. Але — чаго? Тэмпераменту, якога патрабуе чырвоны тон? Узяў каланок, якім клаў на палатно ваду, але падумаў, ці не да месца тут шчацінка, і пэндзаль замяніў на шчацінавы. Успомніў, што ўчора не прыдзіраўся да чырвонай вады, хапала як быццам і тэмпераменту, і тэхнікі. Можа, сумненні не ад пейзажа — ад настрою? Тыя дні, як пісаў, была побач Соня, настрой быў роўны, лагодны, а сёння Соні няма, ён чакае Марыю — няма і спакою, бо які спакой можа быць з Марыяй? Неба за акном таксама не радуе — хмурае. Адышоў ад мальберта, стаў бліжэй да акна, каб адбітае ад палатна святло не сляпіла вочы, зноў наблізіўся да мальберта, паставіў яго іначай, адышоў, яшчэ

раз прыдзірліва ўгледзеўся ў чырвань. Кінаварным мазкам не хапала суседства з сінім па ценях кобальтам? Узяў палітру, але рашуча спыніўся: ці не хоча ён сапсаваць сам тон? Вось — вечны пошук вечна недасягальнага ідэалу. Ты — да яго, а ён — ад цябе. Гульня ката з мышшу. Пакуль гуляеш — мышка здохла ці збегла. А то і гульня надакучыць: кот мышку кіне — пся крэў! Адклаў палітру, узяў са стала, як паратунак ад сумненняў, кілішак, з ім апусціўся ў крэсла.

Трэба адчуваць і гэта: дзе ставіць кропку, дзе коску, як не зблытаць іх сэнс і месца.

Пакруціў у пальцах кілішак, перакуліў з яго на язык духмяную вадкасць, паглядзеў на пусты і пазмрачнеў: пусты — кавалак халоднага шкла, і гэта мастак пазбавіў кілішак жывога сонечнага агню. Навошта? Каб самому загарэцца яго агнём? Але ж і адваротнае магло адбыцца, мог страціць настрой — ад кілішка, падобнага без агеньчыка на халоднае шкло. Ці не адбываецца падобнае з кожным мастаком, калі сонечную энергію жывой натуры ён пералівае ў свой пейзаж? Здаецца, што множыш радасць, сееш святло, служыш сонцу, Богу сонца, паганцу Ярылу, што ярылапаклоннік, дзіця Бога сонца, яго абранец, а на самой справе ці не пішаш ты ценем, у той час, як сам Бог піша святлом, нават калі і ценем сонца, бо як ты, убогі грэшнік, можаш спрачацца ў мастацтве святла з самім Богам? Пра гэта яшчэ не думаў? Але гэта заўсёды, нават з вучэльні, адчуваў і, адчуваючы, дрыжэў, як можа дрыжэць людская душа, слабая і грэшная, перад недасягальным Боскім ідэалам. Вось і бег ад страху да Паленава? І быў шчаслівы называцца вучнем Паленава, адчуўшы, што ўратаваўся? А як вучань Левітана не быў шчаслівы? Быў, таксама быў. Але бег па святло, па сонца, богам якіх быў усё ж Паленаў. А следам бег Эфрос, мастацтвазнаўца, і цкаваў цябе за прагу святла і сонца. Паленаў вёў, як сам-Бог, сам-Ярыла, да сонца, а крытык, дробная, хоць і вядомая ў мастацтве шаўка, цкаваў, каб не пусціць цябе туды, дзе быў Ярыла. Не мог цкаваць сам-Бога, а вучня сам-Бога мог, пакуль вучань не стаў сам-Богам. Але спазніўся, не заўважыў, што ўжо і вучань сам-Бога — сам-Бог.

Адчуў, як ад апошняга ўспаміну, што падкаціўся зусім

нечакана, заледзянела ўсярэдзіне, кроў хлынула ад твару, ад сэрца. Вочы намацалі на століку кілішак, у якім яшчэ зіхацела рубінавая зорачка. Пусты паставіў на столік, узяў той, з рубінам, трымаў за донца доўга, не рызыкуючы пагасіць у ім драбок рубіну, паварочваў да святла, углядаўся, як зіхацела святло па гранях шкла, як у ім чырвоныя мазочкі то рассыпаліся, ярчэлі, то збягаліся, сінелі. Гулялі языкі пажару, падобнага на той, што ў Белавежы. А чаму карціне даў гэтакую назву — "Чырвоная вада Белавежы"? Можа, вада Староволі? Што там і там? Белавежа — край, Старая Воля — кут родны? Што найпершае? Увесь час, пакуль пісаў, адчуваў, што ў новай рабоце ёсць большае за свой інтым, большае нават за свята святла і сонца, такое, чаго не ўтрымаць доўга ў майстэрні: яшчэ мазок — і ў свет. Але ў які? Дзе яго агонь найбольш патрэбны? Тут, на радзіме, ці, можа, там, дзе перадзвіжнікі, сябры, ды і, між іншым, эфросы таксама? Там пайшлі чуткі, што ў Варшаве, пакінуўшы Расію, Жукоўскі спісаўся, страціў свой талент, жабрачыць, што ўжо ніколі не зможа пісаць, як пісаў. Там адпявалі, хавалі. Пра гэта чуў не толькі ад Ляксандры, якая засталася вернай сяброўкаю, пісала яму лісты. А ён — працуе зусім не горш, піша як і раней — агнём і сэрцам. Дзе доказы? Вось і пашле ў Расію чырвоную ваду — сваю кроў. Пашле Ляксандры — яна там знойдзе, каму і як паказаць, каб бачылі і ведалі ўсе. Як зразумеюць яго чырвоную ваду, відавочнае і алегарычнае? Жывапіс жывапісцы зразумеюць— чырвонае полымя апячэ. Адчуюць, што кроў у яго не скісла, бунтуе, як бунтавала.

Успомніў заснежана-марозны дзень у Маскве, дарогу па Ардынцы, музей Марыі Канстанцінаўны Марозавай на Прачысценцы. Нават пачуў, як рыпіць пад чаравікамі снег, холад цяжкой бронзы ў руцэ — дзверы музея. Спыніўся ў вестыбюлі. Куды і да каго ішоў? Апусціў руку ў кішэню — часопіс быў там, на месцы. З кішэні выхапіў і ўзбег па лесвіцы. Звярнуў направа. У пакоі калегіі па справах музея сядзелі мастакі, сакратар, сядзеў і крытык. Так, ведаў загадзя, што ён тут не адзін, але не ведаў, не чакаў, што тэмперамент можа быць гэтакі выбуховы — ледзь крытыка ўбачыў, як кроў шалёна ўскіпела ў жылах. Той усхапіўся з крэсла, адчуўшы, мабыць, штосьці

непрыемнае, і ў гэты час ён, Жукоўскі, сунуў яму пад нос часопіс: "Вы рэцэнзент Эфрос і гэта вы пісалі?" Той быў прыпёрты да сцяны: "Так, я Эфрос, я напісаў". І тут жа атрымаў моцную аплявуху. Пахіснуўся, і тады для раўнавагі, каб выраўняць крытыка, Жукоўскі плясну з другога боку — часопісам. Кінуў яго пад ногі аўтару і выйшаў з пакоя. Адплата была гучная, але адпаведная. Нечуваным было нахабства крытыка. Стаўшы ў позу вялікага рупліўца за лёс пейзажнага жывапісу і вялікага знаўцы прыроды, ён пісаў, што Жукоўскі прыйшоў да нуля, пачаў кінаварыць, сурміць, румяніць прыроду, ператвараць яе ў вулічную бабу, страціўшы пачуццё меры. І гэта ў той час, калі пастаянна жыў у прыродзе, ведаў яе як не шмат хто з жывапісцаў. Астравухаў, Юон і Крымаў настойвалі, каб Жукоўскага вывелі з акадэмікаў і Саюза мастакоў, пагражалі, што іначай самі пакінуць акадэмію і Саюз. Але падтрымкі не знайшлі. Прымірэнцам аказаўся нават Рэпін. Ён даслаў ліст Бірулю, у якім прасіў, каб той, як сябра Жукоўскага, паўплываў на канфлікт. Усе чакалі, што ў гэтай завірусе скажа сам Жукоўскі. І ён сказаў — паставіў кропку яшчэ адной аплявухаю, ужо не аднаму крытыку, назаўсёды пакінуўшы Расію. Праўда, тая заварушка была не адзінай, нават і не галоўнай прычынай ад'езду. Нельга было не бачыць, што эфросы — усяго толькі наводчыкі ў больш хітрай ды жорсткай, як мастацкая крытыка, гульні, пачынаецца гульня на крыві, якая не абыдзе яго панскія ды княскія інтэр'еры і маёнткі, вось-вось учыніць свой пагромчык. Адчуць гэта пасобіла жыццё ў Вятцы, свежыя ад яе ўражанні, хоць ехаў туды як быццам у згодзе з тымі, хто пасылаў, з цікавасці да бярложнага краю. Там не толькі працаваў, але і пабачыў новую ідэалагічную лякарню, яе першых у новым часе пацыентаў. Другі раз ехаць туды не жадаў.

Можна было, вядома, усё гэта пераджыць лягчэй, калі б кроў у жылах была халаднейшая, не бацькава, ды не ад маці ўражлівая душа. Але кроў — грымучы газ, душа — не рабыня. Выбар адбыўся хуткі. А што далей? Як працаваць на новым месцы? Як працаваў? Як вучылі вялікія перадзвіжнікі? Ды Польшча — не Расія, тут перадзвіжнікі — не заканадаўцы, нават заходнія імпрэсіяністычныя ўплывы — не норма. Тое, што ўбачыў, — ілюс-

трацыі да гісторыі і далёкі ад жывога паветра пейзаж — душы рэаліста не грэла. Застацца самім сабою? А ці прызнае гэтакага самасційніка Польшча? Як буйнога рэаліста ўчарашняй Расіі прызнавала, давала залы пад выставы ў Варшаве ды Кракаве. Але мастак учарашняй Расіі — мастак, па тутэйшых мерках, наогул учарашні. З гэтым хіба мог прымірыцца? Не стары гадамі, тым больш душою, не падбіўся, каб адкласці палітру, кожны дзень стаяў за станком, як прыкаваны, было ўсё, каб і гэты свет прымусіць прызнаць сябе. Але што пісаць? Душа па-ранейшаму патрабавала жывой прыроды, каларытнай натуры, непасрэдных у прыродзе настрояў, без паляванняў за пераменлівым святлом жыць не магла, толькі ў прыродзе хацела дыхаць, перажываць ды радавацца, а тут, вакол Варшавы, таго, што шукаў, не знаходзіў. Яму Варшава не была чужой, яе ўсю ведаў ■ маладых гадоў, калі вучыўся тут у прагімназіі, ведаў і любіў, але каб пісаць, як пісаў, той маладой любові было мала. Хацелася пісаць прыроду, не прыкатаную колам цывілізацыі, натуральную, пісаць у лясах і на балотах, дзе вольна жывуць не толькі звяры ды птушкі, але і людзі, вёскі з усіх бакоў адкрытыя воку, дзе ўсё — жывая натура. І вось тады, як кідаўся ў пошуках сваёй натуры, сэрца затужыла па Старой Волі, па тых, што вакол яе, лясах, балотах, рачулках, палетках. Паехаў на сваё Палессе і быў уражаны тым, што ўбачыў. У паўночным краі, дзе жыў і пісаў раней, прырода ляжала буйнымі планамі, празрыстая ў глыбінях-даляглядах, манументальная, а тут — такая мілая ў малым, жывая ў разнастайнасці і адзінстве вобразаў, у складанасці малюнка; тут колеры, іх пераліві, святлацені ў малых аб'ёмах, у вірах ды кручах, у карунках рэльефу. Столькі каларыту, і ўсё сваё, роднае. І ад Варшавы блізка.

Аднойчы на золку ўзяў эцюднік, стрэльбу — падаўся ў пушчу. Ляскамі ды пералескамі выйшаў на вялікія балоты, якія палешукі называлі Дзікімі, а там качак — аж цёмна. І пісаў, і страляў. Не заўважыў, як дзень згарэў. Хацеў вяртацца дадому, ды качкі на вадзе ляжалі — без сабакі не ўзяць і кінуць трафеі не столькі шкода, як брыдка. Заўважыў за хмызамі човен. Перабіраючыся з купіны на купіну, чапляючыся рукамі за хмыззё, амаль

дабраўся да таго чоўна, як раптам пад ім пялёхнулася нешта вялізнае. Бабёр ці выдра? Ускінуў стрэльбу, і тут як варам акаціла: чалавек? Здзівіла, што мужык быў у рудой, як гнілое балота, світцы, у шапцы з рудога лямцу, крыссё світкі падсунутае пад вераўчаку, якая яго падпяразвала, а ніжэй — голы. Нібы тая яшчарка, колерам зліваўся з вясновым хмызнём ды куп'ем, і калі б не белыголы знізу, то, можа, і ўхрастаў бы з ружжа. Але цяпер і той спалохаўся — невядома, хто каго болей. Не паказаўшы твару, переваліўся ў човен, нібы калода, і паплыў, адпіхнуўшыся без вясла, нагамі. Спачатку растварыўся ў вячэрняй шэрані, а потым, далей, выбліснуў у прагаллі малінавага сонечнага промня і ў тым чырвоным святле ўсё роўна як наблізіўся, аж можна было ўбачыць твар — бараду, шырокі лоб, вочы, поўныя дзікай сілы. Крыкнуў наўздагон:

— Стой, дружа! На бойся!..

Але той не спыніўся і твару больш не паказаў. Адно ў малінавым промні задам голым бліснуў.

Не адразу здагадаўся, што адбылося ў адзін момант, што ўбачыў, нават засумняваўся, ці чалавека згледзеў у чоўне, можа, якога звера. А як усё ўзважыў, зразумеў — зарагатаў і закрычаў ужо не чалавеку, якога бачыў, а проста ў прастору:

— Ну, братачка!.. Ну, артыст!..

Завідна выбраўся з балота на бярозавы ўзгорак. Дрэўцы стаялі куртатыя, дробныя, не абарона ад ветру, які, праўда, на ноч аціх, але пад імі быў сухі белы пясок, тамсям, купінамі, накрыты сівым мохам. У пяску выкапаў яміну, нагарнуў сушняку, запаліў, у агонь закаціў смалёвы корч. Паклаў пад галаву ля вогнішча эцюднік і лёг.

Усю ноч не спаў. Слухаў саловак у падлеску, крумканне жабаў на балоце аж да паўночы, слонак ды качак на блізкіх пералётах, а як канцэрт закончыўся, думаў пра жыццё сястры і бацькі ў вёсцы пад адным дахам і пра сваё жыццё, як яно зладзілася за бацькавым парогам, успамінаў маму, гадаў, што было б, калі б яна жыла даўжэй, каго б падтрымала, сына ці мужа, ці змагла б іх прымірыць; думаў пра свой пушчанскі край, у ім — пра родны дом, дзе яму было заўсёды, як прыязджаў, неспакойна, але які да сябе зваў і які ён усё ж любіў, як край і дом

маленства, і ад любові, толькі ад яе, пісаў. Падагрэў сябе і такой нечаканай думкаю: можа, першаю прычынаю, што пераехаў з Расіі ў Варшаву, была якраз гэтая радасць — край родны, бо ■ дваццатага года, як ён адышоў пад Польшчу, дарогі сюды з Расіі закрыліся, і як было іх адкрыць, не пераехаўшы ў Польшчу? Праўда, калі пераязджаў, пра гэта не думаў. Але ці кожны крок робіш ад думак? Хіба мала — ад сэрца? І калі гэта так, то сэрца не памылілася: дарога ў Старую Волю цяпер заўсёды блізкая. Толькі б з бацькам жыць не ворагамі. У гэтых думках ноч праседзеў каля вогнішча і не замёрз. А пачало віднець — прыйшоў на тое масца, дзе боўталіся ў балотнай іржы качкі. Адну знайшоў і падабраў, вадою за ноч прыбітую да купіны якраз там, дзе човен стаяў. Укінуў у сетку і залюбаваўся, як прыгожа ўзыходзіла над балотам сонца, як мяняліся колеры і тон вады, чароту, неба, ужо не ўспамінаючы ўчарашняга палешука. І раптам вочы натрапілі на кол, які тырчаў з вады. “Ага,— падумаў,— ці не тут і сетка на рыбу альбо на бабра, на выдру? Вось чаму мужык спалохаўся чужога вока!” Рукою да кала дацягнуўся, каб узяць, але адчуў у ім нешта хітрае. Чорны, як галаўня, ды не вугаль, гладкі, ажно блішчаў, а канец, што тырчаў з вады, нібыта галава той выдры. Яшчэ ў вочы кінулася, як дубец то ўздымаўся над вадою, то ўніз ападаў, вынырваў і тануў, і вада пад ім нібыта падымалася і апускалася, як што жывое было пад вадою. Калі здалося, што дубец вось зараз нырне і знікне, тады схапіў яго, галаву выдры, з вады вырваў. Ён быў доўгі, раўнюткі, нагадваў кассё, але без пупка, і на канцы, якім сядзеў у дрыгве, з магутным, быццам на вялікага звера, мядзведзя ці зубра, нажом. Знаходку выпаласкаў, абмыў ад твані, на бераг вынес. Што зброя, сумненняў не было, і што нож — каса звычайная, з абодвух бакоў кляпаная, вострая, падобная на баявы меч, адно больш страшная доўгім кассём — да галавы любога злыдня дацягнецца. Тое кассё, дрэва, было хоць чорнае, але з жывымі чырвонымі ды жоўтымі па антрацытавым бляску, нібы з бурштыну, жыламі ды плямкамі, якія ў дрэва ўеліся і запякліся. Мораны дуб? Трэба было вяртацца дадому — што са знаходкаю рабіць? З сабою несці — людзей пужаць, кінуць у балота — шкада.

З ёю і на дарогу выйшаў. Пачуў — ззаду кола парыпвае. Сышоў убок, спыніўся: конь бяжыць, наганяе, мужык сядзіць на драбінах. Бліжэй пад'ехаў — стаў:

— Садзіся, паляўнічы, падвязу.

Сеў. Паклаў знаходку на воз, побач — эцюднік, ружжо і сетку з качкамі. Паехалі. Мужык прычмокваў, падганяючы каня, ды на касу паглядаў. А потым спытаў, што гэта такое.

Не ведаў, як яму адказаць.

— Ды вось... Знайшоў у балоце. Штука, бачу, цікавая.

Мужык спыніў каня, узяў знаходку на калені, агледзеў, як каса кляпаная з двух бакоў. Ухмыльнуўся ды кажа:

— Штука дужа цікавая. Будзь з ёю асцярожны. За гэтакую касу і пры цары, і пры саветах давалі бясплатны білет у Сібір.

— За што, не разумею? — перапытаў Жукоўскі.

— Ды за гэтую самую штуку.

— Але ж чыесьці рукі яе зрабілі — была патрэбная?

— Рукі для яе былі і будуць. Асабліва тутака, на Палессі. Паляшук гэтакую штуку і цяпер шануе. — Мужык шмаргануў лейцамі, драбіны пабеглі далей.

— Які паляшук? Я паляшук таксама.

— Ты — не ведаю. А былі тыя, што з гэтакімі косамі хадзілі разам з Яськам-гаспадаром на царскае войска. Не чуў пра Каліноўскага? Яны сваю справу да канца не давялі.

— Тых даўно няма.

— Жывуць іх дзеці. Кроў тая самая.

Селянін спыніў каня, сказаў, што яго дарога паварочвае, а ў Стараволю — прама. Жукоўскі саскочыў з воза, забраў эцюднік, ружжо, сетку з качкамі і знаходку. Селянін паехаў далей, а ён стаяў, глядзеў яму ў спіну і шкадаваў, што не распытаў нешта яшчэ.

Мясціны, дзе ішоў, былі знаёмыя, і ён неўзабаве выйшаў праз хмызняк да свайго дома. Касу паставіў на ганку, з ружжом ды качкамі прайшоў у дом. Тут і Серафіма:

— Ой, братуха, дзе ты начлежнічаў?

Сетку з качкамі аддаў сястры, зняў з пляча ружжо, сеў на кушэтку, скінуў боты, куртку. Спытаў:

— Дзе бацька?

— Быў тут.

— Ведае, што я прыехаў?

— Ведае. Але... ты галодны?..

Далей гаварыць пра бацьку сястра не хацела, ён гэта адчуў і зразумеў, што цяпер падсоўвацца да яго няварта. Пайшлі на кухню. Снедаючы, бацьку не спаміналі, але, калі сядзелі за сталом, праз акно бачылі, як ён прайшоў да хлявоў, несучы ў руцэ прывезеную з балота касу. Першаю яго заўважыла Серафіма, спытала, што панёс, а Станіслаў і не глядзеў, што бацька нёс, прыўзняўшыся над крэслам, глядзеў на бацьку, на яго паходку, хацеў убачыць твар і не ўбачыў. Серафіма ўсхапілася і выйшла за дзверы. Чагосьці захвалявалася? Тады ўстаў з-за стала і Станіслаў. Выйшаў на калідор, адтуль — на ганак. Касы там, дзе яе пакінуў, не было. Абышоў дом — ні Серафімы, ні бацькі. Вярнуўся, падышоў да бацькавага пакоя, пастукаў у дзверы. Ніхто не азваўся. Вярнуўся на кухню і чакаў сястру. Не дачакаўшыся, зноў выйшаў на калідор, яшчэ пастукаў у бацькавы дзверы і не стрымаўся — адчыніў. У пакоі нікога не было, але ён зайшоў. Раней гэта, без дазволу бацькі, не зрабіў бы, але цяпер крокі ў пакой падаліся крокамі да самога бацькі. Адразу, як увайшоў, убачыў насупраць на сцяне два партрэты побач — мамін і бацькаў: маладыя, прыгожыя. А на суседняй — яшчэ два: бацькавы родныя браты Жукоўскія — у вайсковай форме, афіцэры. Якой жа арміі? Чыёй? Пад партрэтамі — пісьмовы стол, на стале — разгорнутая Біблія. Бацька чытаў? Што, якія запаветы? Біблія была старая, па-польску пісаная, шрыфты прыгожыя і выразныя, як і не чытаныя. Перад сталом стаяла старое крэсла — Станіслаў яго пазнаў таксама, бо памятаў з тых часоў, як і сам дом.

Хацеў сесці ў крэсла — не адважыўся. Над Бібліяй схіліўся, прачытаў: "Сказаў Бог: Я Пан твой, Які вывеў цябе з зямлі Егіпецкай, з дома рабства. Хай не будзе ў цябе іншых багоў перад тварам Маім. Не рабі сабе куміра і ніякай выявы таго, хто на небе ўверсе, і што на зямлі ўнізе, і што ў вадзе ніжэй зямлі. Не кланяйся ім, бо Я Пан, Бог твой..." А далей — пра шлях Майсея са сваім народам з рабства. О, які цяжкі ды доўгі быў той шлях,

бо ішлі людзі, што не хацелі рабства, але душою кожны з іх быў рабом.

Пражыў у Старой Волі два дні, а бацьку ніяк не мог убачыць. Яго і Серафіма шукала, з ног збілася, не знаходзіла. Яна, можа, мацней за ўсіх хацела сустрэчы бацькі з сынам, каб пamірыліся, хацела згоды ў доме, у сям'і, і з таго часу, як брат жыў блізка, у Варшаве, на гэта вельмі спадзявалася, сама рабіла ўсё, каб гэта адбылося. Колькі пайшло ў Варшаву яе лістоў, у якіх маліла брата не забываць вёску. І вось: брат ёсць — бацькі няма.

А тым часам трэба было вяртацца ў Варшаву. Станіслаў пахадзіў па мястэчку, знайшоў фурмана, дамовіўся, каб адвёз на чыгунку. Прыйшоў і дзень ад'езду.

Раніцай, прачнуўшыся, Серафіма выйшла са свайго пакоя, падышла да бацькавых дзвярэй, пастукала — глуха. Заглянула ў пакой — пуста. І ніякіх слядоў, каб дома начаваў. Выйшла ў двор, абышла хлявы. На дрывотні стаяла тоўстая калода, на якой секлі дровы, каля калоды ляжаў дубец — раней тут яго не было, не заўважала. Узяла ў рукі — дзіўным здаўся. Канец — як галава звера. Прынесла паказаць брату ў дом, і той адразу пазнаў сваё кассё, хоць канец з касою разам быў адсечаны адным махам сякеры.

— А гэта мая знаходка, — сказаў ён Серафіме. — Толькі... дзе сама каса? Хто адсек? — і паведаў сястры пра сустрэчу на балоце з загадкавым мужыком, з яшчэ адным, які падвозіў, пра іх размову на возе, мужыцкія перасцярогі, што тычыліся касы. Серафіма зноў захвалявалася:

— Хто ж мог адсекчы, як не бацька?

— Але навошта яму каса?..

Калі сястра зноў некуды пабегла, Станіслаў яшчэ раз падышоў да бацькавых дзвярэй. Зноў на яго стук у дзверы ніхто не адгукнуўся. Зайшоў у пакой і падышоў да стала. Біблія ляжала, як тады, але разгорнутая была не на тых старонках, дзе чытаў бацька, а далей, дзе яе закончыў чытаць ён, Станіслаў, як заходзіў раней, — на апошняй песні Майсея. Знайшоў старонкі бацькавы, адгарнуўшы аркуш назад, і супакоіўся: цяпер бацька, можа, не заўважыць, што тут нехта быў, гартаў. Магла, вядома, прыбіраць у пакоі Серафіма, магла і Біблію чытаць, але ўсё ж...

Каля пісьмовага стала стаяў камод з чырвонага дрэва, які Станіслаў памятаў таксама з маленства, але тады ён быў у маміным пакоі, маміны рэчы ляжалі ў ім. Чые цяпер у ім рэчы? Бацька, відаць, камодам даражыў, што сабе ў пакой паставіў, але ў шуфлядах — чые рэчы? Яго ці, можа, маміны? Шуфляды з бронзавымі замкамі ды ручкамі былі зачыненыя, але ў самай ніжняй з замка тырчаў ключык, яго крутнуў і лёгка высунуў шуфлядку. Там ляжалі папкі з паперамі, старыя польскія календары, сшыткі, паштоўкі, альбомы з фотаздымкамі. Альбом, які быў зверху, разгарнуў, і там адразу — прыгожы мамін твар, светлы, сонейкам сагрэты, такі слаўны. Карцела здымак узяць сабе, але адразу думка занепакоіла: што будзе з бацькам, як дазнаецца, на Серафіму прапажу зваліць? Божа, уратуй! Паклаў здымак назад у альбом, прыслухаўся і, не пачуўшы, каб недзе хто хадзіў, разгарнуў рудую скураную папку. У ёй ляжалі пажоўклыя ад часу паперы, старыя грошы, вырыванкі з газет ды кніжак. "Мужыцкая праўда"? Пра гэтую газету чуў, казаў Біруля, брат Вітольда, што жыў у Варшаве, абяцаў прынесці пачытаць і не прынёс. Вочы зачапіліся за радкі: "На маскаля ды паноў няма чаго спадзявацца мужыку, бо яны нявольныя..." Здзівіўся, як рашуча ляжалі на паперы слоўка да слоўка і ўсе простыя. Мужык казаў? А далей: "...Не будуць яны нас рабаваць, бо мы ўжо ведаем, дзе сіла ды праўда, як здабыць зямлю ды волю". Во як!.. І пра паноў — пад самы дых: "Калі паны хочуць быць разам з мужыкамі, змагацца за зямлю і волю, хай чыняць усё па праўдзе, па справядлівасці, бо мужык літасці не просіць, навучаны трымаць у руках касу і сякеру". І пра касу?! Яська-спадар з-пад Вільні? Ён і пісаў? Во пра каго казаў мужык, з якім на возе з балота вяртаўся! Уваччу памутнела, кроў хлынула да галавы. З хвіліну стаяў не варушачыся. Пачуў, як нехта крыкнуў за акном. Глянуў у акно: там стаяла фурманка, запрэжаная паркай коней, і фурман сядзеў у ёй— пазнаў мужыка, якога дамаўляў, каб адвёз на чыгуначную станцыю. Сунуў хутчэй газету ў папку, але раптам у той жа папцы заўважыў малюнак з часопіса: мужыкі стаяць у шэрых світах, пад лямцавымі шапкамі, у лапцях і ботах, як хто, і ў кожнага ў руках каса, праўда,

косы ў двух, а ў трох — гэтакія ж дзіды, нажы ў неба, як тая, што прывёз з балота.

За дзвярыма па калідорчыку прабегла Серафіма:

— Стась, дзе ты? Чалавек прыехаў! Ста-ась?!

Сунуў малюнак у папку, шуфлядку зачыніў. А як выходзіў з пакоя, паспеў яшчэ раз кінуць вачыма па сценах, па мэблі — па ўсім, што было ў пакоі, як рабіў, стаўшы перад натурай, выбраным матывам, каб адным позіркам схапіць галоўнае — настрой і каларыт, тон. Цяпер гэтым позіркам схапіў гарачыню, нібы ад вогнішча: ад чырвонага стала, чырвонага камода, чырвонай круглай аправы люстра на сцяне, бацькавага чырвонага крэсла, ад чырвоных з бронзаю рам з партрэтамі, ад акна, за якім сцяною стаяў бэз у ружовай квецені, ад чырвоных рэфлексаў па светлых сценах пакоя, ад паветра, якое рэфлексіравала чырванню. З гэтым агняна-трывожным колерам у вачах і выскачыў за дзверы, ужо тут, нарэшце, супакоіўшыся, калі ўбачыў, што блізка нікога няма і што ніводнае вока не заўважыла, як ён быў у бацькавым пакоі.

З вёскі ад'язджаў поўны новых пачуццяў. Праводзіла Серафіма. Перахрысціла на развітанне, пацалавала, слязу пусціла. Прасіла, каб не злаваў на бацьку, што не сустрэў і не правёў, каб дараваў як хрысціянін, ды часцей прыязджаў, бо прыйдзе дзень, калі бацька ўсё даруе сыну, інача проста быць не можа, і што ён, Станіслаў, павінен да гэтага быць гатовы сэрцам. А ён тады папрасіў Серафіму, каб напісала яму ў Варшаву пра бацьку, калі і як той вернецца дадому, што скажа ёй, ці спытае пра сына, што яна сама, на яго гледзячы, адчуе ў ім, заўважыць і падумае што.

Цягніком вяртаючыся ў Варшаву, спытаў сябе: "А ці яму, адвергнутаму бацькам, так ахвота ведаць, што скажа бацька Серафіме пра сына, як будзе выглядаць пасля дзён і начэй блуканняў вакол свайго дома, абы не бачыць сына?" Так, хацеў ведаць. Чаму? Сябе дапытваў, як на судзе дапытвае суддзя, бо тое, што перажыў ды перадумаў за лічаныя дні ў Волі, скаланула душу і сэрца, і, акрамя таго, душу ўзняло, дало ёй сілы, а галава яснейшай стала. Перад вачыма ўсю дарогу выразна, нібы намаляваныя, нават у колерах і рухомых абрысах, стаялі ды некуды імчалі вобразы роднай старонкі, якіх раней як быц-

цам не бачыў, а калі і бачыў, дык не як цяпер, не так разумеў іх. Менавіта цяпер, як ніколі раней, адчуў ды зразумеў чырвонае святло Бацькаўшчыны, у якім жыў бацька — пан і мужык, з годнасцю пана і з мужыцкай бядою. Хіба не ў гэтых глыбінях чырвані, агню і цемры хавалася загадка ягонай драмы, бяды ўсёй сям'і, бацькавай замкнёнасці ад усіх, нават ад самых блізкіх людзей, яго жорсткасці да сына?

— Вон з сэрца маяго, маскаль!..

Гром грымнуў у глыбінях памяці. Аж скалануўся, як, можа, не скаланаўся, калі было гэта не рэхам, як цяпер, а блізкай, з воку на вока, явай, самім громам, і сэрца было яшчэ такое маладое, ранімае.

Але чаму — маскаль? Не маляр — маскаль? Усё жыццё дагэтуль у вушах і ў галаве жыла бацькава абраза — маляр! Слова было зразумелае. Таму і запомнілася, што зразумелае? А — маскаль? Тады, маладым, гэтае, другое, не разумеў, і яно не абражала, не даставала сэрца, таму, можа, і ў памяці не засталося? Але ж было, грымела ў доме, бо вось прачнулася — чырвоныя віры збудзілі? Ім, гэтым словам, як і тым, бацька праводзіў сына шукаць у свеце свой шлях, свой лёс?

Агледзеўся ў купэ вагона, як баючыся, што нехта яшчэ, акрамя яго, пачуе той гром. Але побач не было нікога. Ён у купэ сядзеў адзін. Супакоіўшыся, сам сабе сказаў, нават уголас: "Сын і бацька — каса і камень?" Было гэта, так. А цяпер? Ці вернуцца яны адзін да аднаго? Як вярнуцца? Колькі гадоў назад Серафіма яму сказала: "Ты, Стась, бачыш, што бацька памыліўся, ён баяўся, каб ты не стаў звычайным маляром, а ты стаў незвычайным мастаком, ён пакутуе ад свае памылкі, ды прызнацца ў пакутах не можа — не дае шляхетны гонар." І вось цяпер, толькі цяпер убачыў, што і Серафіма, як ён сам, не вельмі разумела бацьку, што не галоўным было бацькава нежаданне, каб ён стаў мастаком. Цяпер, едучы з роднай вёскі, бачыў перад сабою яшчэ і партрэты бацькавых братоў, чуў Баляслава, які яму аднойчы казаў пра іх, жорстка пакараных царом за ўдзел у польска-літоўскім паўстанні. Адзін з іх быў у штабе Каліноўскага, Яські з-пад Вільні, другі камандаваў паўстанцамі на полі бою. Абодва былі высланыя на катаргу ў Сібір — адзін склаў там свае

косці, другі ўцёк за мяжу. Бацьку ад катаргі памілавалі, але забралі ўсё, што меў як прыстойны шляхціц: маёнткі, прывілеі, званні. І хоць жыў пасля гэтага ў сваім доме, але не гаспадаром — кватарантам, арандуючы дом у царскага двара. Баляслаў казаў, што бацька не быў у баях, але паўстанцам пасабляў зброяй, коньмі, прадуктамі і нават свайго лепшага каваля аддаў ім, інсургентам, каваць на бітвы зброю. А там хто ведае дакладна ўсё, як было? Ведаў толькі бацька. Ды ён, патайны і маўклівы, хіба ўсё скажа, як было, хоць і сынам?

Жукоўскі сядзеў у крэсле перад чырвоным пейзажам, не заўважаючы яго, бачыў адно далёкае, што з гадамі не танула ні ў імжы нябеснай, ні ў сутарэннях часу, наадварот — яснела, бліжэла, ярчэла ва ўсіх сваіх колерах. Паленаў меў рацыю, калі казаў, што колер нельга глушыць, крыць шэрым тонам, трэба браць ва ўсёй магчымай святланоснасці, нават ярчэй, як бачыць вока, і ад такога, святланоснага, ісці да тона. А ён, Жукоўскі, дадаў бы яшчэ і сваё адчуванне: няма той сілы, якая пагасіла б колер, нават час, гады і гады пагасіць не могуць, і калі пісаць па памяці, колер трэба класці больш адкрыты, як яго бачыў ці бачыш. Хіба чырвоная вада Белавежы з гадамі пагасла ў вачах? Цяпер гарэла, можа, мацнейшай чырванню, як тады, калі бачыў яе ў натуры, пісаў з натуры.

Вочы, як стаміўшыся глядзець удалячынь, апусціліся долу, іх позірк затрымаўся на руцэ, што ляжала на падлакотніку крэсла. Белая рука ў белым манжэце сарочкі і малінавая чырвань падлакотніка — дзе большыя кантраст і гармонія колераў? На чырвань чула адгукалася скура рукі — уся, да кончыкаў пальцаў, рэфлексіравала малінавымі валерамі. Жукоўскі спачатку спакойна, нават да абыякавасці лёгка глядзеў на гульню святла на руцэ, на чырвань падлакотніка і чырвань на пальцах, разглядаў, як бывала, калі захапляўся гульнёю святла і тона на самых нечаканых і дробных рэчах, але з гэтага спакою пачаў узнікаць іншы настрой, які падняў з крэсла. Адышоў, збоку паглядзеў на крэсла, ускінуў галаву, агледзеў увесь пакой, на момант затрымліваючы позірк на кніжнай шафе, пісьмовым стале, ламберным століку, выйшаў з рабочага пакоя ў гасцёўню, кінуў позірк на стары буфет,

вялікі круглы стол, трумо, сакрэтнік, партрэты і карціны на сценах у чырвоных з бронзай рамах — уся мэбля, кожная рэч тут і там, у абодвух пакоях, былі не выпадковыя, усё стаяла, ляжала і вісела на сваіх месцах, і ўсё, амаль усё, было з чырвонага дрэва, якое дзе-нідзе ўпрыгожвалі і падкрэслівалі медзь, бронза, пазалота. Гэта быў стыль, які даўно ўвайшоў у жыццё мастака, яшчэ, можна сказаць, з маленства, калі мастаком, вядома, не быў і жыў у доме, дзе ўсё, і стыль таксама, ішло ад мамы і бацькі. Любіў чырвоную мэблю, але толькі цяпер падумаў, што гэтая любоў каранілася ў бацькавым доме, была спадчынай па крыві, і што яна не проста любоў да чырвонага дрэва, а глыбей, далей, вышэй — першааснова жыцця, лёс роду. У кватэрах, дзе жыў, чырвань была не толькі ў мэблі, яна мазочкамі гучала ў дыванах, дэкаратыўнай аздобе сцен, у свяцільніках пад столлю і на сценах, урачыста-ўзвышаны колер і стыль часта, як сам заўважыў, паўтараўся ў людзях, якія жылі ці проста бывалі як свае ў яго кватэры, і асабліва сугучны гэты колер быў з абліччам Соф'і. Яна, як пачалі жыць разам, мелодыю чырвонага ў ім, мастаку, адчула адразу і прызнала як сваю. І гэта іх яшчэ мацней зблізкала і радніла. А як глядзеліся тут, у яго пакоях, Стэла ці Марыя? Было таксама паразуменне густаў. Рубінавыя завушнічкі ў Стэлы ці малінавы шалік пад малінавым капялюшыкам у Марыі рабілі іх ледзь не гаспадынямі ў яго кватэры. Чырвоная мэбля, яе цяплынь, настроі былі і ў кватэры на Гогалеўскім бульвары ў Маскве. Калі пакідаў Расію, вымушаны быў пакінуць там і любімую мэблю, якая так сагравала жыццё. Пакупнікоў хапала, але амаль усю мэблю купіла мадам Бернштэйн, адрас якой захоўваў да гэтага часу, нібы прадаў ёй найлепшыя свае карціны і хацеў пакінуць сабе магчымасць час ад часу цікавіцца, як там, у мадам Бернштэйн, пачуваюцца ягоныя шафы, сталы, крэслы. У Варшаве таксама пастараўся абставіць пакоі чырвонай, падобнай на ранейшую, мэбляй, і яна яму пасобіла захаваць на новым месцы творчы настрой, ахвоту і сілы працаваць, як працаваў у маладыя гады. Асяроддзе тут, вядома, іншае, пісаць тое і так, як пісаў раней, было немагчыма, шукаў іншыя матывы, стыль, тэхнічныя прыёмы, нешта знаходзіў, шмат у чым вяртаўся да сябе самога, каб набытае не страціць,

але працаваў шмат, з добрым настроем. У першыя месяцы жыцця ў Варшаве напісаў вялікі, на поўны рост, партрэт Соні перад выхадам на баль-маскарад, у спальні перад трумо, дзе ўсё вытрымана ў любімым малінавым тоне: мэбля, дыван на падлозе, гульня святлаценяў па сценах пакоя, у вазах — чырвоныя ружы, у тым самым тоне прыгожа расшыты сарафан на жонцы і чаравікі, чырвоная ружа ў валасах, рэфлексы лёгкага румянцу на твары, аголеных шыі, плячах і ў тым самым тоне адбітак постаці ў трумо, нават ноч у высокім акне, цёмнае неба, агні начнога горада адбіваюць малінавае святло, якое пануе ў пакоі. Там не проста тон — стан душы, яго і Соні, настрой, у якім жылі абое, адчуванне свята. А якую тонкую гармонію колераў ён знайшоў у спалучэнні малінавага, малінава-бэзавага тону з аліўкавымі і аліўкава-залацістымі танамі ў сваіх варшаўскіх інтэр'ерах, з жасмінам і півонямі, з поўняю паміж фасфарысцыруючых воблакаў у начным акне, ці гармонію малінавага тону [redacted] кобальтава-сінімі далямі за акном, у раме малінавага штофу парцьеры з фіялетава-сінімі адбіткамі даляў на выглянцаваным паркеце, [redacted] чарнёнай пазалотаю інтэр'ера ў палацы Шарамецева, ці гармонію малінавага тону з лімонным у пакоях багатага маёнтка Брасава, куды яго аднойчы так удала, для работы і радасці, прывезла графіня Наталля Сяргееўна Брасава, жонка князя Міхаіла Аляксандравіча. І колькі яшчэ напісана малінавых інтэр'ераў! Усе яны ў самых лепшых музеях Расіі і Польшчы, у багатых салонах. Колькі мастакоў, выдатных майстроў, як Маравоў, Бялыніцкі-Біруля, Бахцін, Вінаградаў, хацелі і спрабавалі пісаць тон так, як піша ён, але ўсе пісалі, як пішуць толькі яны самі, бо пісаць так, як ён, не мог і не зможа ніхто, акрамя яго. Чаму? Ды таму, што яго чырвоны тон — ягоная кроў, цячэ ў ягоных жылах, толькі ў ягоных, ні ў чыіх больш, ні ў чыіх. А што казаў Эфрос? Што казаў Мельнікаў — яшчэ адзін карыфей пагромаў? Што чырвоныя таны Жукоўскага — парфума на твары вулічнай дзеўкі? Гэта — Эфрос. А па Мельнікаву, "Жукоўскі з усімі сваімі танамі ды колерамі стаіць адной нагою ў труне рэалізму перадзвіжнікаў, другою — у труне Саюза мастакоў". Але ж там, у гэтых "трунах", увесь рускі жывапіс? Яны яго знішчалі разам з рэалістычным

жывапісам перадзвіжнікаў і нават маладых, пасля перадзвіжнікаў, рэалістаў, славячы лявацкія рэвалюцыйныя маршы. Дурачкі-с! Не разумелі і не разумеюць, адкуль у мастака і тон, і колер, што яны — яго жыццё. Ці рабілі выгляд, што не разумеюць, каб славіць левыя маршы? Але ж чырвоная вада Белавежы — не вулічная баба. У ёй гарачая памяць зямлі і не толькі зямлі, але і яго, мастака. У гэтай чырвані яны разам, край родны і яго дзіця — адно цэлае, адзін лёс і адна сутнасць. І цяпер ён, мастак, ведае, што чырвань — не толькі каронны тон і колер Жукоўскага, але і колер яго роду, што цар пазбавіў род герба, край — волі, але не здолеў пазбавіць род і край гарачай крыві і халоднай памяці. І ён, адзін з Жукоўскіх, ва ўладзе якога ўсе колеры зямныя і нябесныя, абраны родам і краем, каб сказаць гэта свету. Сказаў і скажа. Хіба не сказанае — за сотню выстаў жывапісу толькі ў Расіі, на якіх былі яго карціны і неаднойчы — у самым цэнтры ўвагі? А выставы ў Рыме, Парыжы, Мюнхене, Таронта, Нью-Йорку, Капенгагене, Лос-Анжэлесе, за дваццаць персанальных і з сябрамі ў адной Польшчы? Былі, праўда, выставы, куды яго не пускалі, асабліва ў апошнія гады — у Расіі. На выставу перадзвіжнікаў не пусцілі разам з Касаткіным і Бялыніцкім-Бірулем. Гэта — у дваццаць трэцім годзе... Тады ж не пусцілі і на выставу Саюза рускіх мастакоў. Малюцін, адзін з яго стваральнікаў і карыфеяў, пратэстуючы, выйшаў ■ Саюза. І гэта таксама гнала з Расіі.

Успомніўшы Бірулю сярод выгнанцаў злашчаснай выставы, вярнуўся ■ гасцёўні ў рабочы пакой, падышоў да пісьмовага стала, на якім ляжаў ліст да сябра, і апусціўся ў крэсла. Чырвонае, яно неаднойчы здавалася пякельным вогнішчам, але сёння настройвала на думкі.

Што з лістом? Пачаў і не закончыў? Але пакуль пісаў, так шмат чаго ўспомніў, перадумаў, паспавядаўся перад сябрам, перад сабою.

Што хацеў сказаць — сказаў? А пра чырвоны тон, чырвоную ваду, чырвоны ў агні лёс? Гэта — для сябе? Ну, вядома, тон Бірулі — блакіт і срэбра. Як сябра жартаваў? "На тваё,— казаў,— вогнішча трэба вада халодная." Што чуў у адказ? А вось: "Як табе ўдаецца, дружа, гарачаю рукою трымаць халодную палітру? І ўсё — дакладнень-

ка". Бо і ў блакітнага Бірулі тэмперамент, і там — кроў не лёд. Іншая мера цеплыні і холаду ці адзінства працілегласцей? Талент не меншы — здабыць цяплынь у халодных фарбах.

Вачыма зноў зачапіўся за блакіт фіялак і адвесці вочы не спяшаўся. Падумаў: "Самая памежная, між летам і зімою, кветка, такая драбяза, ■ ў ёй — увесь каляндар і дзён, і колераў, святло ды тон усіх пор года. Так усё проста: тычынка да тычынкі — кропля сонейка, пялёстак да пялёстка — вяночак холаду, у кроплі сонейка — пушок прахалоды, што ні пялёстак — то вясёлка. Няма варожасці таноў, тэмператур". Бывала, што яны, сябры, пісалі адзін, пад адным небам і сонцам, матыў, але такія непадобныя выходзілі эцюды. Бо кожны мастак мае свой градус цяпла і свой градус холаду. А ў выніку? Кожны выяўляе свой твар, сваю душу. Біруля глыбей бачыць блакіт і срэбра, а ён — чырвань і золата. Бірулю па душы Удомля — возера сівое, яршыстае, халодным ветрам крытае, а яго вабіла да сябе суседняе Песьво з белым домам на беразе, падобным на палац, дзе заўсёды заседжвалася сонца. Леанід Георгіевіч Белярмінаў, гаспадар дома, быў прафесарам Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Пецярбурзе, стваральнікам вядомай у Еўропе навуковай школы афтальмолагаў і дабрэйшым чалавекам, улюбёным у жывапіс. Жанчынаю высокай культуры была і Луіза Іванаўна, яго жонка. Жывучы ў іх, колькі гадоў пісаў возера, берагі, тэрасы, веранды белага дома, сам дом, прыгожы з усіх бакоў, парк ■ сажалкамі, каналамі, масточкамі, алеямі. Адной з першых работ там была "Бяссонная ноч" — карціна і да яе эцюды з Ляксандрай у крэсле на верандзе белага дома, у час, можа, самага першага сонечнага промня. Колькі захаплення было ад карціны, калі яна з'явілася на выставе перадзвіжнікаў! Была там у цэнтры ўвагі, першаю, вакол яе, як мухі вакол мёду, раіліся ўсе жывапісцы, журналісты, моладзь. І яшчэ ў той самы час напісаў, зноў з Ляксандрай, "Вячэрні акорд". Абедзве работы прыцягвалі ўвагу гурманаў жывапісу святлом, як ад сонца, ранішняга на адной карціне і вячэрняга на другой, яно ляжала на жанчыне, якая там і там у белай сукенцы, на сценах праз вокны і дзверы, на раялі, падлозе, як святло блікавала, рэфлексіравала. Так, ён тады шукаў новыя магчымасці святла, яго жывую гульню, тэх-

нічныя і кампазіцыйныя прыёмы падачы, але, жывучы на возеры, нельга было не захапляцца ім, не бачыць яго ўсё новыя ды новыя жывапісныя праявы. Душа не драмала, настроі былі глыбокія, хоць мяняліся ўвесь час, як мяняліся надвор'е і само возера пад вечна рухомым небам. Але на працу натхняла не адна прырода. Сэрцу не давала спаць яшчэ і Тоня.

Яна пачала прыязджаць на лета з Пецярбурга разам з Белярмінавымі, гаспадарамі дома. Лета іх і звяло.

Неяк ён захапіўся захадам сонца. Паставіў мальберт каля белага дома і пісаў малінава-аранжавы вячэрні пейзаж. Гэтак на ім засяродзіўся, што аж здрыгануўся, пачуўшы зверху, як з неба: “Цудоўна, маэстра!” Ускінуў галаву — на балконе другога паверха стаяла маладая жанчына з чырвонай ружаю ў руцэ. Адарваўшыся на момант ад працы, папрасіў затрымацца на балконе, пакуль не схаваецца сонца. Хацеў прадоўжыць работу, але яна далей не пайшла. Зняў з мальберта недапісаны эцюд, незадаволены сабою, што паспяшаўся адгукнуцца на голас, пачаў складаць у скрынку фарбы, выціраць пэндзлі. Сабраўшыся ісці, зноў глянуў на балкон, але жанчыны там ужо не было. Падаўся ў дом.

Два пакоі, якія займаў Жукоўскі, былі на першым паверсе вокнамі да возера, і ён адразу вызначыў, што балкон, на якім стаяла жанчына з ружаю, над ім. Скінуў з сябе рабочую вопратку, у якой пісаў, апрануў белую сарочку пад любімым чырвоным гальштукам, выйшаў з пакоя і лесвіцай падняўся на другі паверх. Пастукаў у дзверы.

Тоня была пляменніцай Белярмінавых, яе мама даводзілася роднай сястрою Луізы Іванаўны, і ад яе ён упершыню даведаўся, што сёстры — француженкі. Яна вучылася ў Парыжы, скончыла Сарбону, вярнулася ў Пецярбург, напалову была французскай крыві, але і тая палова рабіла яе, як адразу падалося, стопрацэнтнай парыжанкай, а што ў ёй было звыш Парыжа, дык гэта мяккі, на паўтанах, ну проста экзатычны каларыт. Калі б ён тады да яе не зайшоў, то не хутка б убачыў, тым больш у спрыяльных для знаёмства ўмовах, бо ў Беражку яна разлічвала запыніцца ўсяго на адзін дзень і на адну ноч, едучы з Масквы ў Пецярбург, каб пасля зімы ды вясны ў Пары-

жы паглядзець на цётку і дзядзьку. Але пасля іх сустрэчы засталася на тыдзень, а яшчэ праз два тыдні прыехала на ўсё лета.

Успамін пра Тоню абудзіў у сэрцы маладыя жаданні. Узяў асадку і напісаў Бірулю, які Тоню ведаў, бо прыязджаў у гэты дом, у ім жыў, працаваў, калі была там і яна:

*Заглянi ў Беражок і адшукай наша дрэва, паглядзі, ці відаць на ствале год і дзень сустрэчы з Тоняй. Я думаю, што кара яшчэ не зажыла настолькі, каб гэта не ўбачыць, што наш год яшчэ не зарос. Дрэва стаіць крокаў за трыццаць ад каменя.*

Усміхнуўся: "Маладыя наіўныя летуценні? Але як доўга яны жывуць у параненым маладымі гадамі сэрцы?"

Цяпер ён не мог пагасіць у вачах чырвонай ружы на белым балконе, як і тады, у першы вечар іх сустрэчы, ружу на балконе доўга не мог пагасіць позні захад сонца. А чырвоны бант на галаве ў шыкоўнай парыжскай прычосцы? А чырвоная кофтачка? У яе абліччы заўсёды, была раніца ці быў вечар, гарэла нейкая чырвоная плямка, хоць самая дробная, усё роўна як яна ведала густ і палітру свайго блізкага мастака, і кожнай такой плямкай распальвала яго сэрца. А можа, ён тут ні пры чым? Можа, яна адчувала, як чырвоная плямка глядзіцца на фоне белага дома, белага балкона, блакітнага возера, сонечнага парка? І усё ж — не, ён і пры ўсім, і пры тым. Хіба не тады, не ў тое іх першае лета чырвоныя фарбы так настойліва пачалі прасіцца на палітру? У той час ён шмат пісаў чырвоных і аранжавых захадаў сонца, узыходаў сонца, яркіх кветак у светлыні маёнтка і цудоўнага лета, у адзін букет з чырвонымі рашуча клаў лімонныя вечаровыя пажары над возерам і за краем лесу, карычневыя ды вохрыста-залацістыя паўтоны, карункі ценяў па светлых сонечных калонах і сценах дома, не баяўся і ўльтрамарынава-кобальтавага холаду восені. Халодныя таны аказваліся цёплымі, як жыццё ў белым доме і вакол яго, а прыйшла зіма, снег выпаў — цяплынь знайшоў і ў ім. На ўсіх выставах перадзвіжнікаў і саюзнікаў яго работы кружылі галовы нечаканымі танамі, іх называлі "карнаваламі Жукоўскага", у рускім пейзажным жывапісе па-

чынаўся яго зорны час, крытыка збівалася з ног — як і чым вызначыць нечаканы парад таноў мастака? Без сэрца, адной галавою, якая б хітрая ці разумная не была, справіцца з гэтай работаю было немагчыма. Эфрос за што атрымаў аплявуху? За тое самае: у жывапісе нельга блытаць кроў з парфумаю, колер крыві — з колерам губной памады. У тыя гады, калі жыў, кахаў, пісаў на Песьво ў белым доме і выстаўляўся на ўсіх выставах, заканадаўцам у крытыцы быў і вядомы мастакам Брэшка-Брашкоўскі — яго словы памятаў таксама: "Дзіўна таленавіты пейзажыст! Як каларыст — мацнейшы за Левітана. Вы паглядзіце яго халодную, злёгку залацістую гаму. Цяжка бліжэй падысці да прыроды. А рэфлексы ад заходу сонца на вокнах дач? Яны дрыжаць і ззяюць, рэальныя, як элюзія. Нельга адарвацца, любуючыся, і ад свінцовай вады, якая жыве ў непагоду, зыбаецца". І колькі яшчэ гуляла па прэсе захаплення ад водсветаў, рэфлексаў у шыбах вокан на вадзе, па снезе, кветках. Не размалёўваў ён прыроду, не рабіў з яе танную дзеўку на продаж, пісаў сэрцам, якому не давала спаць Тоня.

Раптам падумаў, што Тоню страціў зарана. Падумаў — і напісаў сябру:

*Тоня разам з мамаю, Мілачкаю і мужам яшчэ да вайны выехала ў Амерыку...*

Вайна была сусветная, далёкая, а сказаў так, быццам тая вайна была ўчора і яго ўчарашнія раны ад страты яшчэ ныюць.

А можа, Тоня знікла своечасова? Усё ж, у яе былі і мама, і маленькая дачушка, і нелюбімы муж. Ці не толькі таму? Ну, вядома, прычына была яшчэ ў тым, што, як чалавек выхаваны, далікатны, яна не хацела, каб у белым доме разгулялася драма. Яна любіла гэты дом, любіла гаспадароў дома, любіла Кацечку, пястунню Леаніда Георгіевіча, і не хацела прыносіць Каці сардэчныя пакуты, якія не маглі б не заўважыць у доме.

Жукоўскі задумаўся.

Ці бывае ў жыцці мастака такое, каб дама сэрца мяняла яго жывапіс? Гэтае пытанне ён ужо задаваў сабе раней, але ні разу на яго не адказаў, каб не зманіць. А што замі-

нае сказаць праўду? Бывае, што праўду цяжка прызнаць і апраўдаць. Але пытанне, калі на яго не адказаць, будзе лезці ў галаву зноў і зноў. Іншы раўнівец усклікне: “Як можна, каб жанчына захамутала маю палітру?” Адно — ад Бога, другое — нюхаецца з сатаною! Але які раўнівец не прызнае, што зламаць жыццё мастака жанчына можа? Было такое. Бывае. Яшчэ і будзе неаднойчы. І тут ён зловіцца: хіба жыцце мастака не ўплывае на яго мастацтва? І пра гэта падумаў, успомніўшы Тоню ды Кацю. Заўсёды, як успамінаў Тоню, успамінаў і Кацю. Як быццам Тоня і прывяла да яго Кацю. І яшчэ таму, што ўсё адбывалася ў адным доме, які не мог забыць. Калі паехала Тоня і Каця нечакана паказала, хто яна тут, яго жыццё ў белым доме змянілася. Нават цяпер, праз столькі гадоў, сам змяніўся ў настроі, успомніўшы Кацю. Яе прысутнасць рабіла яго разважлівым, цвярозым. Тоня — агонь, страта галавы, і не дарма заўсёды бачыў яе ў аздобе чырвані, так шмат чырвоных пейзажаў пісаў у той час, з ёю побач. А Каця была халодным душам. Цяпер лягчэй казаць сябру пра Тоню. І ўсё ж сказаў і пра Кацю:

*Калі ты будзеш у Пецярбургу, то адшукай Белярмінаву з Кацяю. Я цябе пра гэта вельмі прашу.*

А чаму так скупа? І чаму “вельмі”?

Адхінуўся ад стала і ад ліста, падумаў: “Навошта будзіць тое, што было і мінулася?” Паміж ім і ёю як-ніяк і сем’і, і дзяржаўная мяжа? Зноў наблізіўся да паперы, не ведаючы, што тут рабіць, крэсліць ці дапісваць, што чым тлумачыць? І напісаў яшчэ і тое, што раптам успыхнула ў памяці:

*Прыгадаўшы жыццё ў Бяражку, я так нечакана адчуў, не ўспомніў — менавіта адчуў, як яна, Каця, яшчэ дзяўчынкаю — тады ёй было ўсяго 14 ці 15 гадкоў — прыціскалася да мяне, калі я стаяў за мальбертам, і як варожа яна тады глядзела на Тоню.*

Гэтак, як цяпер, пра Кацю ён ніколі не казаў Бірулю. Рабіў з таго, што ў іх было, таямніцу? Мала таго — баяўся сказаць. Нават самаму блізкаму чалавеку. Як і Тоня бая-

лася. А чаго? Каб хто яшчэ не заўважыў? Каб не заўважылі Луіза Іванаўна і Леанід Георгіевіч? А як жа сама Каця? Тут і была ўся небяспека. Яна нікога не баялася, ні ад каго не хавалася, проста яшчэ не ўмела хавацца са сваімі пачуццямі, не здагадвалася, што часам іх трэба ад людзей хаваць. Малайчына Тоня, што першаю ўсё зразумела. А ён? Быў увесь у рабоце, у летніх эцюдах, захоплены Тоняю і Кацю зразумеў не адразу.

*Гэта было яе першае каханне. Самае незабыўнае.*

Калі Тоня паехала, ён некалькі дзён, як згубіўшы не толькі яе, але і сябе, усе свае фарбы і пэндзлі, хадзіў па парку ці берагам возера і не бачыў, што пісаць. А за ім следам хадзіла Каця. Ставіў мальберт, халодным сэрцам ставіў на яго падрамнік, але не паспяваў раскласці на палітры фарбы, як з парку, з лесу, з-за дома паказвалася Каця, падыходзіла, і праца не ішла. Убачыўшы, што ён яе не чакаў, яна знікала, і тады на сэрцы рабілася яшчэ цяжэй, ён пакідаў мальберт і адпраўляўся яе шукаць. Аднойчы яна спыніла яго за паркам у лузе, калі вяртаўся з лесу, кінулася яму на шыю і плакала ўголас, заліваючы свой і яго твар слязамі, дапытваючыся, чаму ён яе не кахае, а ён казаў, што кахае, каб толькі супакоіць, выціраў далонямі і хусцінкай яе слёзы, суцяшаў, казаў, каб паклікаць на дапамогу яе самалюбства, што слёзы — гэта каханне дзіцяці, але не годнай паненкі, што ён яе кахае як паненку, але шкадуе як дзіця. І тады яна кінула плакаць і прасіла прабачыць ёй, бо вельмі хацела быць той самай паненкай, якую можна, як дарослую, кахаць.

Той ноччу ён спытаў у сябе, як яму быць з Кацяй. У яго яшчэ не было Соні і ўжо не было Ляксандры. Але перад Кацяю ён быў разгублены і сябе не разумеў. Яна была ўжо не дзіця, у ёй рана прачнулася багатая на пачуцці жанчына, і ён хацеў бы яе, такую чыстую і непасрэдную, пакахаць, ён, можа, яе ўжо кахаў, але і шкадаваў як дзяўчынку, дзіця дарагіх яму людзей, адчуваў, што не можа іх крыўдзіць пачуццём да Каці, якое раптам акажацца не тым, што шукалі яе і яго сэрцы. Іншага выйсця, як пакінуць белы дом, не бачыў. Следам за Тоняй? Але не так, як Тоня. Не знянацку.

Праз колькі дзён знаёмы селянін з Беражка адвёз яго з усімі, якія былі, пажыткамі на возера Молдзіна, вёрст за дзесяць, дзе некалі пісаў Венецыянаў, пасля жыў і пісаў Левітан, там пасяліўся ў вялікім жоўтым доме ў маёнтку Усясвяцкім, знайшоўшы тое, што трэба мастаку: возера, парк, лес, старыя хлявы і дачы. Там не давялося доўга перажываць разлуку з белым домам, з Тоняй ды Кацяй, бо адразу патануў у прыродзе, у працы. А прыйшла вясна — расцвілі фіялкі ў лесе, і з імі адкрыўся малады блакітны тон. "Першыя вястункі вясны", "Падснежнікі", "Вясновыя першынцы", "Радасны май", "Промні вясны", "Свята вясны" — такая лірыка, усясвяцкая сімфонія паплыла з-пад пэндзля на ўсе выставы. Што — адтуль, з выстаў, зваротна? Першым было захапленне Бенуа: "Свята душы!.." А там і Сава Мамантаў: "Жукоўскі — непаўторны паэт прыроды! Чараўнік!.." А чыё гэта ў галаве: "Лёгка, свабодна, радасна дыхаць яго фіялкамі"? Зноў — Мамантаў? Што ж, мастацкі густ Савы прызнаны ўсімі, бясспрэчны — ад Шаляпіна, Сярова, Каровіна!.. Там — і "Плаціна" падаспела. Зноў прэса не прамаўчала, усе — у адзін голас: "Шэдэўр!", "Маленькі шэдэўр!" У жывапісе і маленькі — нямала. І Брэшка падвёў рысу ў "Біржавых ведамасцях": "Жукоўскі валодае таямніцаю, якою валодалі Куінджы і Левітан. Чэхаўская манера абагульняць пейзаж, падначальваць яго настроям усяго народа. Вось млын, вада, узгорак, мужыцкія коні... Тут — уся Расія..." Вось як!.. Уся Расія ў яго палітры!..

— А Каця?..

Нервова агледзеўся, быццам пачуў не свой голас, усхапіўся з крэсла, але, пастаяўшы, загледзеўшыся на фіялкі ў вазачцы, зноў сеў за стол.

Каця?.. Так, мой брат духоўны, я ўсё табе скажу. Узяў асадку і напісаў у ліст сябру:

*Перад ад'ездам у Варшаву да мяне з'явілася Каця. Я тады ўжо быў не адзін. Са мною былі Соня, Таня і Сяргей. Я быў страшэнна ўражаны. Каця выглядала шыкоўнай маладой дамай з такім арыгінальным піцерскім акцэнтам і вымаўленнем — ну проста дзіва. І ўяві сабе, яна мне сказала, што заўсёды, не толькі ў мінулым, мела да мяне глыбокія пачуцці, што і цяпер, як мяне*

*ўбачыла, засталася той самай. Гэта так уразіла, што, калі б я быў адзін, я б яе ўжо ніколі не адпусціў ад сябе, пакінуў бы назаўсёды.*

Жукоўскі паставіў кропку і ў гэты час пачуў высокі гоман касцельных званоў. Устаў з-за стала, падышоў да акна і расчыніў яго. Яшчэ ззяла сонца, але ўжо быў адвячорак, і ў касцёлах пачыналіся вячэрнія набажэнствы. Ён стаяў каля акна, глядзеў на горад, на крыжы касцёла Панны Марыі і слухаў, як па ўсёй Варшаве гаманілі званы. Адчуваў, як нешта ў ім, напэўна ж душа, падымалася разам [redacted] мелодыяй званоў вышэй і вышэй. Але званы адзванілі, [redacted] ён усё стаяў каля акна і глядзеў на горад.

Ён любіў Варшаву. Думаў пра яе. Пра тое, што яна яго разумела яшчэ як жыў у Расіі. У дванццаць другім годзе даслаў сюды на выставу карціну “Палац графа Шарамецева. Інтэр’ер залы” і за яе атрымаў першую прэмію. Праз год тут высока ацанілі карціну “Ручай” — зноў першая прэмія і залаты медаль Таварыства мастацтваў. У наступным годзе, калі ўжо тут жыў, былі ўзнагарода і прэмія Варшавы за “Зялёны кабінет у Лазенкаўскім палацы”. І далей — ледзь не кожны год. Прэміі ды ўзнагароды за “Лета ў Варшаве”, за “Зал баляў у Лазенкаўскім палацы”, за інтэр’еры, пейзажы. І яшчэ — выставы, выставы. Варшава, Кракаў, Познань, Беласток.

Дзячыла раней і Расія? Ну, вядома. У апошнія гады часта, нават двойчы за адну карціну ці выставу: і пранікамі, і плёткамі.

А званы ўсё званілі. Зачыніў акно — прыслухаўся. Так, званілі.

Адышоў ад акна і спыніўся перад мальбертам. Глядзеў на пейзаж, на яго чырвоную ваду. Званы гулі ў вадзе, у вірах.

Ад мальберта падышоў да каміна, загледзеўся на фіялкі. Блакіт з іх пачынаў асыпацца, пялёсткі бурэлі, бляклы зялёны кобальт кубачкаў з-пад пялёсткаў расплываўся там, дзе яшчэ ўчора дыміў сіні кобальт. Успомніў Соню, як яна, едучы ў вёску, казала, каб не забываў падліваць ваду ў вазачкі з фіялкамі і ў вазу з ружамі, каб помніў і тое, што май — месяц Панны Марыі, каб схадзіў у касцёл, памаліўся за здароўе паненак ды паняў,

якія свяцілі яму ў жыцці і жывапісе. На кветкі глядзеў кожны дзень і ваду падліваў, а набажэнствы... Яшчэ не позна?

Прынёс у збанку вады, падліў у вазачкі з фіялкамі і ў вазу з ружамі, потым прыстойна апрануўся і выйшаў на вуліцу.

Цвілі каштаны. Жаўтлява-вохрыстыя ў ружова-блакітнай дымцы свечкі суквеццяў, здавалася, пахлі гарачым воскам і ладанам. Нечаканае адчуванне свету, у які апусціўся са свае майстэрні, затрымала каля дома. Яшчэ ўчора на дрэвах не было столькі жывога святла і паветра не мела касцельнага водару. Што адбылося за адзін дзень? Ах, учора ішоў дождж, усё вакол было шэрым і мокрым, сёння дзень сонечны, цёплы. Перажагнаўся і пайшоў па вуліцы, асветленай полымем квецені варшаўскай вясны. Ішоў не спяшаючыся і не зважаючы на тое, што магло запыніць, пасеяць непатрэбныя адчуванні і думкі. У гэты час яго ўнутраны свет быў такі, як заўсёды, калі працаваў, — пра адно думаў, адно адчуваў, думкам і адчуванням дазваляў паглыбляцца, але не расплывацца. Нёс у сабе музыку, чысты голас, мелодыю, якую ў гэтыя дні спявала ўся Варшава, ішоў з імі і да іх, і не Соня, не яе наказ перад ад'ездам у вёску вывеў з майстэрні, а ўсё тое, што ў апошнія два дні перажыў, па слову, па асобных глытках-успамінах збіраючы ў ліст да сябра і духоўнага брата споведзь душы. Цяпер ужо не асобныя словы, фразы ды ўспаміны гучалі ў ім, а музыка, якая шукала згоды з усім чыстым светам. Нечакана згадаў, нібы радок ці актаву з гэтае музыкі, прыемны жаночы голас: “Я вас ніколі не бачыла, але бачыла, як свеціць ваша душа на жывапісных палотнах, вы мяне, магчыма, таксама не бачылі, але, упэўнена, чулі, як чуе мяне Варшава, я запрашаю вас сёння ў касцёл Панны Марыі і хачу, каб вы прыйшлі роўна ў шэсць на вячэрняе набажэнства”. Ён мог не пайсці, не адгукнуцца на дзіўнае нечаканае запрашэнне па тэлефоне невядомага яму жаночага голасу. Але пайшоў, адчуўшы ў голасе чысціню і пачуццё. І калі ўвайшоў у касцёл, якраз у тую хвіліну, як пачыналася набажэнства, з-пад неба касцельнага, быццам з-пад боскага неба, на яго апусцілася музыка і малітва, якія ведаў і якім быў адкрыты ўвесь існы свет. Гэтая малітва даўно жыла ў ім, ад таго

дня, як убачыў сваю родную маці, і цяпер адчуў, як з глытком чыстага паветра, у якім дрыжэў і плакаў светлымі слязамі жаночы голас, яна зноў, нібыта ўпершыню, увайшла ў яго, каб, усяго ачысціўшы і асвяціўшы, вырвацца з яго да людскога і боскага свету. І ён заспяваў разам з усімі, хто быў з ім у адных сценах:

"Авэ, Марыя!.."

Спяваў і маліўся.

І ўсе, хто быў вакол яго, спявалі і маліліся.

Адно калі замоўк арган, аціхла, нібы знямогшы ў сваёй адданасці ды любові, прастора касцёла, ён убачыў там, пад касцельным небам на балкончыку, белае, светлае, чыстае, быццам з самога неба, воблачка і ў ім цудоўна прасветлены лік панны, яе палаючыя шчаслівым агнём вочы. І ён пазнаў у іх варшаўскую прымадонну Марыю.

Прашаптаў, нібы недаспяванае:

"Авэ!.."

Цяпер, ідучы насустрач найсвятлейшай малітве, несучы яе ў сабе, ён думаў не пра адну Марыю, якая падарыла яму цэлы ахапак чысцюткага ляснога блакіту, а з усімі разам, з усім боскім светам маліўся жыццю — за ўсіх жанчын, шэпчучы:

"Авэ, Марыя!
Авэ, Марыя!
Авэ!.."

## ЭПІЛОГ

Мінула дзесяць гадоў.

Грымела найжахлівая, якую бачыў калі-небудзь свет, вайна. На самым пякельным яе скрыжаванні выдалася быць Варшаве. Яна канала ў развалінах сваіх святынь. Але адна святыня, ад якой залежала, быць ці не быць, аказалася не па зубах смерці. І гэта быў дух Варшавы.

Вайна ішла паміж карычневымі і чырвонымі. Блізкія ў спектры сонечнага святла колеры вялі яе за месца пад тым самым сонцам, і ўсе іншыя — белыя, блакітныя, зялёныя, жоўтыя, — каб мець надзею не спапяліцца паміж аднымі і другімі ў іх агні, каб выжыць, павінны былі хоць на час вайны, пакуль адгрыміць, зрабіцца карычневымі альбо чырвонымі. Але Варшава мела выдатных маста-

коў, якія добра ведалі, што жыццё — гэта святло, а святло — гэта ўвесь спектр колераў і што жыцця не будзе, калі настане ўлада адных карычневых альбо адных чырвоных.

Прыроду карычневых ды чырвоных ведаў як мастак і Жукоўскі. Яны былі ад рознай плоці, але ён бачыў, як часта, хаваючы свой натуральны колер, карычневыя рабіліся падобнымі на чырвоных, а чырвоныя на карычневых.

Варшава паўстала супраць адных і другіх, каб скінуць з сябе ўладу карычневых і не пусціць да ўлады над сабою чырвоных. У гэтым змаганні мастак не мог не быць разам з Варшавай. Ён быў вядомы мастак і мог разлічваць на літасць ворага нават за калючым дротам Прушкава. Але ведаў яшчэ і тое, што толькі поўная, а не падманная свабода дае жыццё ўсёй гаме колераў, усяму іх спектру, і што без гэтага няма жывапісу, і што мастак не мае права прасіць літасці ў ворага сонца і поўнакаляровай палітры. Годнасць і адданасць мастака сонцу і свабодзе была роўнаю годнасці і адданасці сонцу і свабодзе самой Варшавы.

Ён ляжаў у сваіх лагерных лахманах на заледзянелым бетоне пад сцяною барака разам з іншымі, такімі, як сам, вязнямі, памерлымі ў апошнія дні і яшчэ не вывезенымі з тэрыторыі лагера ў накапаваную ім яму. Ляжаў з астатнімі і асобна ад іх, запарушаны снегам, але з тварам, адкрытым небу, і адкрытымі, як у жывога, вачамі, у якіх адбіваўся срабрысты блакіт зімовага неба. Тут ужо стаяў мардаты «студабекер» з адкінутым бортам і лагерныя санітары грукалі ў бетон і лёд рыдлёўкаю і ломам, адбіваючы прымёрзлыя да бетону трупы.

— Гэта мастак. Бачыў яго на барыкадах у Жалібожы, — сказаў адзін з іх, абапёршыся грудзямі на лом і цяжка дыхаючы.

— Яго ведала ўся Варшава, — сказаў другі, грукаючы рыдлёўкаю. — Прыгожы чалавек павінен мець прыгожую магілу, а не агульную на ўсіх яму.

— Цяпер не будзем яго чапаць. Ускінем зверху, а скінем першым, пакладзём асобна ад іншых, каб ён у яме не згубіўся. Ды трэба запомніць, дзе пакладзём. Як вызвалім Варшаву, адкапаем, і будзе ў яго свая магіла.

— Гэта калі дажывём.

— Трэба шафёру, Юзафу, сказаць, каб ён таксама запомніў. Ён дажыве, бо служыць швабам старанна.

— Юзафу трэба плаціць.

— У мяне ёсць залаты пярсцёнак. Але ты паглядзі, якая празрыстая пад ім кроў. Свеціць, як ад сонца.

— Кажуць, што Лазенкі ён пісаў крывёю.

— Ідзе Юзаф. Зараз горла разявіць, што яшчэ не накідалі ў кузаў.

— Аддай яму пярсцёнак.

Падышоў шафёр:

— Варушыцеся, панове. За вамі сочыць вышка.

Санітары загрымелі рыдлёўкай і ломам пад наступным трупам і, ухапіўшы яго за ногі і плечы, кінулі ў кузаў.

Шафёр схаваўся ў кабіну машыны.

— Мастаку трэба было ў апошнюю ноч волі перабірацца з алаўцамі на правы бераг Віслы. Кажуць, што тыя ўдала яе фарсіравалі, ніводны не загінуў.

— На правы бераг — да чырвоных? Не, пан Янак. Тады б ён не быў патрыётам Варшавы.

Пасля вайны хтосьці скажа і хтосьці напіша, што Станіслаў Жукоўскі ўсё ж знайшоў прымірэнне з бацькам. Хтосьці скажа і хтосьці напіша, што яго, сына, знайшоў, каб з ім прымірыцца, бацька. У любым выпадку гэта ўжо адбылося на тым свеце, і было прымірэннем душ. Бо душа, хрышчоная пад штандарамі Яські з-пад Вільні, магла прымірыцца толькі з душою, што ўзяла на сябе пакуты і крыж пад штандарамі Волі і Бацькаўшчыны.